# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ




№ 8

ОРГАН ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ.

1926 г.




# ПІОНЭРЫ І МОПР.

Трэба думаць, што ў нас у БССР няма ніводнага піонэра і вучня, які-б ня чуў аб організацыі, якая называецца Мопр. Гэта значыць, Міжнародная Організацыя Дапамогі Барацьбітам Рэвалюцыі. У гэтых словах яскрава мы бачым і тыя задачы, якія перад данай організацыяй пастаўлены.

У піонэраў ёсьць закон. „Піонэр—таварыш піонэрам рабочых і сялян усяго сьвету". Калі мы хутка будзем сьвяткаваць Міжнародны дзіцячы тыдзень, то асабліва ўспомнім гэты закон, бо добра ведаем, што піонэры ёсьць ня толькі ў нашай вольнай савецкай краіне, а таксама і ў капіталістычных старонках, дзе яны ўсімі мерамі прыгнечваюцца капіталістымі.

Рэволюцыянэры—браты і бацькі нашых сяброў і замежных піонэраў сядзяць часткаю па турмах, дзе ўмовы дрэнныя, але аб іх памятаюць рабочыя і сяляне ўсяго сьвету, якія аб'яднаны ў шэрагах МОПР'у. Гэта організацыя дапамагае ім ня толькі матэрыяльнымі сродкамі (грашыма, адзеньнем), але вядзе і перапіску, чым дапамагае ім помніць аб тым, што аб іх яшчэ не забыліся тыя таварышы, якія жывуць цяпер у вольных краінах.

Ці трэба піонэрам дапамагаць у працы Мопра? Вядома, што так. І частка атрадаў гэтую працу праводзіць добра.

Некаторым чынам лепшаму наладжаньню працы ня спрыяе і тое, што піонэры часамі ня ведаюць, як і дзе праводзіць гэту працу. Часта праца праводзіцца толькі ад сьвята да сьвята,—піонэры ўспамінаюць аб Мопры, калі падыходзіць дзень „Парыскай Камуны", або якое небудзь іншае сьвята міжнароднага характару.

Нашу працу трэба зрабіць штодзённай, а не выпадковай і трымаць сталую сувязь з мясцовай ячэйкай Мопру. Некаторыя думаюць, што трэба зрабіць самастойную організацыю з піонэраў і астатніх дзяцей і гэтай організацыі даць назву „Юныя сябры Мопра". Калі так зрабіць, мы гэтым самым будзем распыляць нашу працу і вялікай справы зрабіць ня зможам.

Піонэрскі атрад павінен сваю працу разгарнуць навокала ячэйкі Мопра, трымаючы з ёй цесную сувязь праз сябра Ячэйкі ЛКСМБ, якому даручана гэтая праца. Апрача ўсяго, неабходна прыцягнуць да працы і вучняў праз організацыю ў школе Мопраўскага гуртка, а таксама гурткоў, якія-б знаёміліся з працай і сутнасьцю гэтай організацыі. Шмат чаго можна зрабіць у дзіцячых дамох, дзе ёсьць вялікая зацікаўленасьць, пад кіраўніцтвам павадыра. Там таксама можна організаваць гурткі і куткі з дашкольнікаў, сярод якіх ня мала піонэраў. У некаторых атрадах практыкуецца ўваход у Мопр колектыўна—зьвеньнямі; гэта можна практыкаваць і на далей. Цяпер у заключэньне аб зьмесьце працы.

У атрадзе трэба праводзіць гутаркі на тэму аб тым, як жывецца рабочым і сялянам за межамі ў капіталістычных старонках, якую Мопр праводзіць там працу і г. д., супольна з гэтым трэба дапамагаць у працы ячэйкі Мопра. Напрыклад: пісаньне плякатаў, грашовыя зборы, дапамога пісаць лісты рэволюцыянэрам, якія сядзяць у турмах, пастаноў спэктаклю, гутаркі ў сям'і, сярод неорганізаваных, аб значэньні гэтай організацыі. Гэта пытаньне павінна высьвятляцца і ў насьценнай газэце; але трэба пісаць ня толькі аб тым, што дзе робіцца, але і аб тым, што практычна зрабіў ужо атрад добрага, альбо дрэннага.



У некаторых хатах-чытальнях існуюць куткі Мопру для дарослых. Піонэрам там можна прыняць удзел дабавіўшы матэрыялу аб становішчы і пра комуністычных організацый за межамі. Такі мтэрыял можна знайсьці ў піонэрскіх часопісяха часопісі „Путь Мопра".

Па некаторых мясцох працуюць „Палітэмігранты"—людзі, якія прыехалі з капіталістычных старонак, дзе сядзелі па турмах. Вось, якія ў гэтай галіне стаяць перад піонэрамі задачы. Калі мы з імі справімся, тады наша інтэрнацыянальнае выхаваньне будзе больш моцным.

**Прапойскі.**





УМОВЫ ПАДПІСКІ:
на 12 м. . . 2 р. 40 к.
на 6 м. . . 1 р. 20 к.
на 3 м. . . — 60 к.
на 1 м. . . — 20 к.

ШТОМЕСЯЧНАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ
ОРГАН
ЦК ЛКСМБ І НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
Менск, Пляц Волі,
Наркамасьветы БССР
— тэлефон № 443. —

№ 8. ЖНІВЕНЬ 1926 г.


# МІЖНАРОДНЫ ДЗІЦЯЧЫ ТЫДЗЕНЬ.

З 30 жніўня па 6-га верасьня піонэры ўсіх старонак будуць сьвяткаваць сваё чарговае сьвята— Міжнародны Дзіцячы Тыдзень. Гэта сьвята—сьвята ня толькі дзяцей, ахопленых у дзіцячыя комуністычныя організацыі, але таксама сьвята і ўсіх пролетарскіх дзяцей. Міжнародны тыдзень сьвяткуецца 6-ты раз. Пад якімі лёзунгамі сёлета будзе праводзіцца гэтае сьвята? Выходзячы з гэтага, перад намі паўстаюць задачы. Вось яны:

*МДТ—тыдзень узмацненьня сувязі піонэраў СССР з замежнымі комуністычнымі дзіцячымі організацыямі і ўзмацьненьне сувязі паміж атрадамі СССР.*

Гэта значыць, што нам неабходна падрахаваць вынікі таго, што зроблена ў галіне Інтэрнацыянальнага выхаваньня: пасылка лістоў, замежным піонэрам, высьвятленьня жыцьця і працы замежных піонэраў у насьценнай газэце і г. д.

Па праўдзе кажучы, ня ўсё добра ў атрадах з інтэрнацыянальным выхаваньнем. Шмат якія атрады пішуць лісты замежным піонэрам агульнымі сказамі, не ўпамінаючы аб сапраўдным становішчы атрадаў. У час тыдню мы павінны падумаць над паляпшэньнем пісаньня лістоў.

У некаторых атрадах да гэтага часу існуюць дрэнныя адносіны паміж піонэрамі розных нацыянальнасьцяў. Гэткія адносіны—не нашы, ня піонэрскія, асабліва між атрадамі. Кожны піонэр— паляк, яўрэй, альбо рускі—для нас зьяўляецца аднальковым сябрам і барацьбітом за адну справу. Палепшаньне працы па інтэрнацыянальнаму выхаваньню павінна быць нашай задачай і пасьля тыдню.

*МДТ—тыдзень узмацненьня працы па культурнаму выхаваньню піонэраў (СССР патрэбен пісьменны, культурны піонэр, будучы організатар, будаўнік соцыялістычнае грамады).*

Што азначае сабою гэты, можа ня зусім зразумелы для піонэраў, лёзунг? Гэта значыць, што мы павінны ў атрадзе ўсякімі мерамі палепшыць якасьць свае працы.

Ня ўсе атрады правялі працу па агранамічна— культурнай прапагандзе. У вёсцы гэта асабліва патрэбна. Калі селянін бачыць карысць з атрадаў, калі піонэры не адмоўляюцца ад працы дома і ўводзяць праз свой паказальны агарод некаторыя навуковыя дасягненьні ў апрацоўцы зямлі, тады ён ахвотна пасылае сваіх дзяцей ў атрад і нават сам зойдзе на збор.

Трэба паглядзець, што зроблена ў справе таго, каб піонэры менш лаяліся, хадзілі больш акуратна і мылі перад ядой рукі.

*МДТ—тыдзень узмацьненьня працы піонэраў па ўцягненьню ўсіх дзяцей у вучобу і будаўніцтва школы і піонэрскую організацыю.*

Непачаты куток працы. Наша школа не ахапіла сабой яшчэ ўсіх дзяцей. Прычына гэтага тая, што наша дзяржава яшчэ экономічна не паднялася да такой ступені свайго разьвіцьця, каб змагла ахапіць усіх дзяцей школай. У гэтай галіне шмат чаго зроблена. У далейшым вызначаная задача ўсеагульнага навучаньня будзе праведзена. Некаторыя дзеці бяднейшых сялян не маюць магчымасьці пайсьці ў школу. Задача піонэрскага атрада аб гэтым паклапаціцца праз камітэт ўзаемадапамогі. Кожны з піонэраў і вучняў на старонках нашай часопісі аб гэтым чытаў.

Неабходна паставіць перад сабой задачу выкананьня таго, што атрад ужо паставіў перад сабой у парадку чарговай працы.

Пачынаецца чарговы навуковы год. Праца ў школе ізноў займе значнае месца. Аб гэтым час падумаць у Міжнародны Дзіцячы Тыдзень.

*МДТ—тыдзень узмацьненьня адзінства трох пакаленьняў на падставе будаўніцтва соцыялізму і барацьбы за сусьветную пролетарскую рэволюцыю пад кіраўніцтвам Усе КП(б) і Комінтэрна.*

Піонэры—зьмена Комсамолу. Комсамол—зьмена партыі. І толькі тады, калі піонэры будуць трымаць цесную сувязь з комсамолам, ведаць яго жыцьцё і працу, тады толькі мы лепш зможам падрыхтаваць яму добрую зьмену. Вельмі часта піонэр, пераходзячы ў комсамол, пачынае ня выконваць піонэрскіх законаў і звычаяў; усё лепшае, што ён атрымаў у піонэрскім атрадзе, забываецца. Вось аб гэтым мы і ўспомнім у дні сьвята. Перад намі стаіць задача—лепш і грунтоўней падрыхтоўваць піонэраў, якія перадаюцца ў камсамол, дабівацца таго, каб піонэр-комсамолец не прыпыняў працы і ў атрадзе.

У сьветкаваньні піонэрамі дзяцячага тыдню, комсамольцам таксама трэба будзе прымаць удзел, і наша задача—прымаць удзел у сьвяткаваньні Міжнароднага Юнацкага дню. Калі мы выканаем тое, што тут вызначылі, тады выканаем лёзунг:

**Зьмена зьмену рыхтуе сабе: Піонэр—Комсамол—КПБ.**

І апошні лёзунг—гэта:

*МДТ—тыдзен падагульваньня і ўзмацненьня працы па аздараўленьню піонэраў.*

Праходзіць лета, пачынаецца зіма. Калі мы думалі аб тым, што рабіць улетку, дык ставілі перад сабой задачу і аздараўленьне піонэраў. Мы рыхтуем комсамолу зьмену, гэта зьмена павінна быць здаровай і моцнай. У Міжнародны Тыдзень трэба падагуліць і падлічыць вынікі таго, як мы скарыстэлі лета, сонца, ваду, паветра. Раней мы пісалі, што ад таго, як будзе добра праведзена праца ўлетку па аздараўленьню, залежыць посьпех зімовай працы.

Кожнаму з піонэраў вядома, што калі зойдеш у іншы з піонэрскіх клюбаў, дык адразу кідаецца ў вочы бруд, сьмецьця, паўцьцё, нават заняткі праходзяць у пылі, а усё гэта адбіваецца на здароў'і. Для таго, каб зьнішчыць такое становішча, мы павінны працаваць і працаваць.

* * *

Такія задачы стаяць перад намі. Зьмест працы нашай піонэрскай організацыі на бягучы пэрыяд вызначаецца гэтымі-ж задачамі. Трэба спадзявацца, што сьвята Міжнароднага Дзіцячага Тыдню дасьць нам яшчэ цэлы шэраг дасягненьняў, бо недахопаў у нас ня менш, як дасягненьняў.

Організоўваючы вечары, гульні, экскурсіі, трэба прыцягнуць і бацькоў піонэраў. Яны ў нашым сьвяткаваньні зьяўляюцца ўдзельнікамі. Дрэнна зробіць той атрад, які не прыцягне да сьвяткаваньня дзяцей, не абхопленых піонэрскай організацыяй, ня трэба забываць аб гэтым.

Міжнародны Дзіцячы Тыдзень—сьвята піонэраў і дзяцей рабочых і сялян усяго сьвету.

Усіх краёў,
Ўсіх народаў
Дзеці батракоў
Громам грануць,
Грануць сьмела—
Будзь гатоў,—
Заўжды гатоў!

**Міх. Лабадаеў.**

## Чырвоналёцкія частушкі.

Пётра-вольны пастушок,
Трубіць з раньня ў ражок.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-рам!
Трубіць з раньня ў ражок.

Ён на неба паглядзеў...
Што такое там гудзе?
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Што такое там гудзе.

Глянуў хлопец і прысеў.
Самалётаў цэлых шэсьць.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Самалётаў цэлых шэсьць.

Пётра чуў пра іх удачы,
Да ніколі іх ня бачыў.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Да ніколі іх ня бачыў.

Вось яны гудзяць, ляцяць,
Зьверху лётчыкі сядзяць.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Зьверху лётчыкі сядзяць.

Як махне адзін рукой
Чараўнік, ён быццам той.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Чараўнік, ён быццам той.

Ён з рукі пусьціў на дол
Чараду тых галубоў.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Чараду тых галубоў.

І зьляцелі галубкі,
Друкаваныя лісткі!
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Друкаваныя лісткі.

Пётра з граматай знаём,
Ён схіліўся над лістом.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Ён схіліўся над лістом.

„Наш па-а-в... е... чырвоны флёт
Абароніць свой народ.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Абароніць свой народ“.

Пётра, Пётра, Пятрушок,
Наш маленькі пастушок!..
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Наш маленькі пастушок.

Закрычаў—і я пайду,
Хай хоць трохі падрасту.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Хай хоць трохі падрасту.

Я прыеду ў Маскву і там,
Там заяву я падам.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Там заяву я падам.

Напішу я пра адно—
Буду вольным лятуном.
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Буду вольным лятуном.

Ад Валерыя Віра
Вольным лётчыкам, ур-ра!
Ту-ру-ру! Та-ра-ра-ра!
Вольным лётчыкам ур-ра!




(*Апавяданьне старога селяніна Тамаша. З нізкі—„Як жыла дарэволюцыйная вёска“*).

— Для мяне, пакуль я быў пастухом у свайго бацькі, ня было большай уцехі, як бычок.

Іншы малы забаўляецца з сабакамі, жарабятамі, а я—не: дняваў і начаваў з бычком. Яно і зразумела. Стадак бяз быка—усё роўна, што вясельля бяз музыкі: ідуць каровы, бы спасьвеныя індычкі, толькі сапуць, а гледзячы на іх сапе і пастух. Гэтага я ня любіў. Зусім іншая справа, калі ў стадку ёсьць бычок. Ці з пашы, ці на пашу—ён арлом ляціць, пучыцца, буіць і ўсё па перадзе ад стадку. Як ні пристанеш, бывала, асабліва пасучы на ранках, а гледзячы на бычка і спаць неахвота, і ногі, здаецца, не баляць, і есьці ня хочацца.

А колькі прыемнага клопату! Праганяем стадак праз вёску—трэ' быць на варце, бо як раз дзе-колечы ламяне з панадворку чужы бык і шчэпіцца бароцца з тваім. Яно добра, калі твой абдоляе, а то можа пабароць чужы: тады-ж брыдка самому, дый пісакоў нагоніць твайму быку, а там і дома не пахваляць за недагляд Асабліва я баяўся сораму і сам ня ведаю чаму.

* * *

Ніколі не забуду аднаго здарэньня. А трэба вам сказаць, што для другога яно—хоць-бы што, а мне, было, хоць тапіся.

У нас, як гэта здараецца і ў кожнай вёсцы, была вялікая насьмешніца, жонка дзядзькі Рыгора. І ўсё, бывала, яна ўбачыць, нічагутка не прапусьціць.

Жану гэта я раз на падвячорак быдла. Мая белая торбачка набіта тугенька хлебам да якога прытулілася і скварка.

Жану. Мой бык яшчэ ў хлеве пацягнуўся, як я выганяў у поле. Ну, думаю, будзе сёньня бяды. Або балотніку пападу ў лапы, або з быком дзе ўкачаюся... Толькі я наблізіўся да панадворку Стасюка Баўтача—шасьць на вуліцу яго валы... Усе яшчэ і цяпер памятаюць яго вала Грэка. Будынак, а ня вол, і паслушны, рахманы на дзіва: малога дзіцяці ня чэпіць.

Мае бычанё, звочыўшы іх, супыняецца, пачынае капаць нагамі, пучыцца...

Не пасьпеў я дабегчы, каб доўгаю пугаю ляснуць ці свайму быку, ці чужому валу, як ужо мой Стракаты стузануўся са страшэнным валом ды яшчэ, як падпірае таму пад самыя вялізарныя рогі!

Ну, думаю, калі гэты раз дабра абыдзецца, згавару лішнія пацеры Ярашу. Не пасьпеў я падняць пугі, каб дапамагчы свайму бычаняці, як ужо мой Стракаты ляжыць пасярэдзіне вуліцы дагары нагамі і раве ад страху.

А Грэк глядзіць на яго ды толькі чмыша.

— А запрападзі ты. Насілу адагнаў, Грэка. Трэба-ж такому здарыцца...

— Вось дык, пастух!—Сьмяецца Рыгорава жонка.

— Ідзеш, як мокрая курыца і ня бачыш, што робіцца пад носам. І бык-жа твой, як куранё—адразу брыкнуў. Трымаў-бы ты яго ў катуху з курамі—пакеплівае далей цётка Ганула.

Грамавы рогат быў адказам на гэта. Сьмяяліся і старыя, і малыя, і ўсе, хто толькі быў пры гэтым. З таго часу і празвалі майго Стракатага куранём. Але якое ён куранё? Лялька, а ня бык. Даўгі, прысадзісты, кароткі, як у адкормнага. А рогі—сапраўды пікі. Такіх другіх рогаў, бадай, на сьвеце ня было ні ў якога іншага быка. Адным словам гатунак.

Злосьць і сорам мяне разабраў такі, што я плачу ракою, аж стадка ня бачу ад жалю: нават, не заўважыў, як апынуўся на выгане ў кустох. Трохі супакоіўшыся ў цішы гаю, пачаў я раскладаць агонь, каб сьпячы на ражне скварку ды папалуднаваць, а сам усё думаю: пачакай-жа, калі так—трэ'-даць інакшы догляд Стракатаму, гэтак далей ня можна—потым і па вёсцы не пройдзеш ад насьмешак.

Пачаў я з таго што кожны дзень стаў дзяліцца са Стракатым сваёю лустаю хлеба і так прызвычаіў яго, што бяз хлеба жыць ня можа. Ні ў дзень ні ў ночы ня меў спакою, бо надумаў спасьвіць Стракатага, каб ніводзін бык, ні вол яго не пабароў Дзе якая лепшая травіна—усю павыносіў. Зайздросныя, убачыўшы мяне з сярпом і мяшком, кажуць бывала:—пацягнуў коршак—прапалі паўмежкі,—і пачыналі лаяцца. А мне нішто: такая моцная думка залягла ў галаве—каб мой Стракаты стаў найдужэйшы.

* * *

Пакуль забаронены сенажаці і стадку і пастуху асабліва цяжка. Галадуюць каровы, пачынаюць менш даваць малака і худнеюць.

Худнее з жалю і пастух. Стараешся ўсімі сіламі напасьвіць дзе-колечы, прыпускаеш трохі на сенажаць, адносячы тычку. Але гэтак можна жартаваць, калі не асабліва зьвераваты паплаўнічы. А бывае нападзе які лютар — тады часта скрабеш бакі ад яго абчэсь цьвеннага кія.

Зважаючы гэта апошняе, з каровамі надта і ня ўлазіш у шкоду, а бык у гэтым — іншая справа: ня грэх і бакамі адказаць за яго, абы напасьвіць. Ну, і лезеш: на мяжу ў жыта, у роў паміж ярыны, і дзе толькі пападзе.



Урэшце, дагнаў такі свайго Стракатага да толку: ён хоць двузімак, а пачаў качаць усіх быкоў. А мне толькі гэтага і трэба: зух стаў на ўсю вёску і ўжо ня йду за стадкам, а скачу, бывала, ведаючы, што ніякі бык не пераможа майго Стракатага. Я асабліва стаў спакойны пасьля таго, як дзядзька Стасюк прадаў абрыдлівага Грэка, пачаўшы араць коньмі.

Як прыемна мне бачыць свайго Стракатага, як ён ідзе з поля перад стадкам з маею сьвіткаю на сьпіне, якой ратаваў я яго ад камароў ды аваднёў, а ў гарачыню хаваў ад сьпёкі! І яму добра, і мне лягчэй...

* * *

Незадоўга да „Пятра", калі гаспадары пачалі ўжо рыхтаваць косы на сенажаць, здарылася нешта такое, што пачало разьбіваць маё шчасьце і ў далейшым разьбіла яго назаўсёды.

У нашай вёсцы быў гаспадар Зьмітрук, які заўсёды хацеў адзначыцца чым-колечы ад другіх. Вялікі быў фарсун і хвалько. То каня наравістага купіць, які нясе яго маланкаю на кірмаш, адно сьпіцы зьвіняць, то пеўня выгадуе такога, што ўся птушыная грамада ходзіць з чырвонымі ад крыві грабенямі. Адным словам, быў фокусьнік. Дык вось, гэты самы Зьмітрук паглядзеў на майго Стракатага і кажа:—вялікі і тоўсты, бы бочка, напханая саломаю, але сілы ў яго ня шмат. Вось папаў бы жвавенькі бычок, ён паказаў-бы яму: хутка распароў-бы гэты лантух.

Мужчыны, якім ён гэта гаварыў, пакаціліся ад сьмеху, а ў мяне аж мурашкі пабеглі па скуры, як Зьмітрук далей сказаў, што хутка прывядзе ад сваякоў на майго быка „ключку". Якая там была „ключка" я ніяк ня мог здагадацца і дрыжаў ад аднага слова, бы асіна ў восень. І прывёў... Палавы двузімак, далёка меншы за майго Стракатага, трохі падобны да парасяці. А забіяка—трудна і сказаць. З усімі быкамі ўжо на вёсцы перабароўся і каму ён, а хто яму, панаганялі пісагоў, аж бакі чырвоныя ад крыві.

Трэба вам сказаць, што да гэтага часу іншы раз я пасьвіў разам са Зьмітруковым Андрэям. Ажно адзін раз, на ранку, бачу—мой Андрэй круціць на занозу і нат' ня пусьціў свае Красулі панюхацца да мае Падласкі, а яны вельмі таварышкавалі. Злучыўся Андрэй з другім пастухом, а я, затаіўшы крыўду, зробленую мне лепшым сябрам, знашоў сабе таксама іншага таварыша.

Час ідзе, а з маім Стракатым не спускаюць бароцца Палавога ні Андрэй ні яго бацька Зьмітрук, як-бы чакаюць чагось.

Калі я стаў далей прыглядацца да Андрэявага Палавога, дык заўважыў, што карак у яго расьце, як на дражджах. А сам Палавы выцягнуўся ў даўжкі, стаў гладкі бы зьмяя. Дзівіўся я гледзячы на такую худкую перамену з Палавым і ніяк ня мог дагадацца, ад чаго ён так брыняе.

* * *

— Давай спусьцім—сказаў раз Андрэй, падтасаваўшыся з сваім быдлам да майго.



І трэба адзначыць, што гэта было сказана з насьмешкаю, трохі „зьверху“, як гаворыцца. Каб гэта было адзін на адзін, я адказаў-бы належна і не пусьціў-бы бароцца свайго Стракатага, бо гарачыня стаяла, як у пекле, але гэта Андрэй зрабіў знарок пры другіх пастухох. Адмаўляцца было нельга, каб ня страціць гонару.

І спусьцілі, адагнаўшы трохі далей каровы. І мой Стракаты і Андрэяў Палавы ціха, ціха зьбліжаліся, гледзячы адным вокам, якбы мераючы сілы ворага... Вось ляснулі рагамі, аж здаецца, іскры пасыпаліся: ні мой ні Андрэяў не падаўся. Зноў ляснулі. Пачалі мітусіцца, выгнуўшы сьпіны. Папхнуў трохі мой, паддаў трохі мацней—Андрэяў упёрся і дае здачы майму, ужо папхне майго Стракатага. Ракавіны на нагах у абоіх сталі шырокія, трымаюцца нагамі за зямлю, бы лапы каршуна за сук. Спацелі абодва, цяжка і хутка дыхаюць... Спацеў і я, убачыўшы, што доўгая праца стаіць перад маім Стракатым. І хоць-бы не набрацца сораму, хоць-бы збароў, як-колечы мой Стракаты.

Ужо, пэўна, болей гадзіны прайшло, а ні той, ні другі не падаецца. Ужо абодвы быкі высалапілі языкі і дыхаюць хутка, хутка. Каб трохі падмагчы катораму, справа зараз скончылася-б, але гэтага нельга, бо тут гонар ня толькі пастуха і яго быка, а і цэлай пастуховай дружыны. Тут нельга гарачыцца: можа выйсьці страшная сварка, а то і разбой паміж зацікаўленымі дружынамі. Папалі мы з Андрэям ў бяду: спусьцілі бароцца і ня рады—ня можам разагнаць.

Глядзімо—бяжыць Андрэяў бацька з жонкаю, за імі бягуць мае бацькі і браты. Доўга крычалі, талкавалі, як бы разагнаць. Урэшце, мой, здаецца, бацька запрапанаваў разьліваць вадою, а як ня было зьблізку вядра, вынялі з загарадзі доўгую жардзіну, павесілі на яе сьвітку і, як толькі разышліся трохі быкі, уставілі яе паміж імі. Разбаранілі—нічый не абдоляў...

Я дзівіўся, што ні на мяне, ні на Андрэя ніхто ня крычаў за тое, што спусьцілі быкоў бароцца.

Бедны мой Стракаты так змучыўся і раззлаваўся, што нат' ня ўзяў хлеба, якім я хацеў перапрасіць яго за няпрыемнасьць, і сунуўся да мяне рагамі.

* * *

Шмат гутарак было пасьля гэтага ў нашай вёсцы. Ніколі ня чувана, каб быкі барoліся ад палудня амаль да самага вечару і ні водзін не перамог. Знашліся ахвотнікі, якія пабіліся аб заклад, што збора Палавы, другія-ж стаялі за майго Стракатага. Адным словам, вёска падзялілася на два лягэры: Стракатых і Палавых, як сталі празываць адны другіх.

Зразумела, што тут пашло на гонар ня толькі ў нас, пастухоў, а нават у нашых бацькоў. Стракатай палавіне было добра вядома, што Зьмітрук з Андрэям падкормліваюць свайго Палавога збожжам і яна сьмела глядзела ў будучыну. Калі Стракаты ад травы гэткі дужы, што-ж будзе тады, калі пачнуць падкідаць яму зярнят?

Мой бацька шанаваў збожжа і не асабліва раскідваўся ім. А тут не-не—бярэ сявенячку і заглянуўшы ўкрадкам у сьвіран (бацька трохі пабойваўся матулькі), ішоў з ёю нібыта да коняй, а там, азірнуўшыся, шасьне да Стракатага. Гледзячы на

бацьку і я пачаў кішэнемі насіць з сьвірна Стракатаму то авёс, то ячмень, то жыта. Расьце мой Стракаты.

Гэтак мая і Андрэява дружыны спрачаліся з месяц. Нашы прыхільнікі кожны дзень абглядвалі сваіх улюблёнцаў і з вялікай нецярплівасьцю чакалі моманту, калі спраўдзяцца іх надзеі.

А мы з Андрэям аж млелі ад страху, каб быкі не схапіліся як-небудзь бяз людзей. Вартуем ад ночы да ночы, нат‘ ногі ня слухаюць увечары, як прыцягнешся да дому.

Распачалося гарачае лета. Дарослыя за працай сьвету ня бачаць, а сьвятам зьбяруцца грамадой і рашаюць, калі лепей было-б спусьціць быкоў.

— Трэ‘ выбраць халодны дзень — кажа Ракоп Канцавы, выняўшы люльку з-за пазухі — у гарачы дзень ня можна, бо могуць абодвы прапасьці.

Усе згаджаліся з ім і чакалі халоднага сьвяточнага дню, калі ўсе будуць вольныя ад працы.

* * *

Ужо дажыналі азіміну, надыходзіў „Ільля“. А гарачыня, як знарок стаіць, быццам жартуе ахвотнікаў да цікавых рэчаў. Праўда, мне гэта было на руку: збожжа на полі ўсюды, колькі хочаш. Паплаўнічы ў гэтым годзе папаў ня злы і не асабліва ганяе з дзесяткаў. Вось тут пастуху выгада: разложыш сьвітку, сноп на яе і кіем намалоціш як золата...

Толькі спажывай Стракаты. Размажнеў мой Стракаты так, што, здаецца, і дворнаму бугаю ня ўступіць, як будынак стаў. Гандляр жывёламі Пэйсах ня раз прыставаў да майго бацькі, каб прадаў стракатага на мяса, але бацька, ня хочачы абразіць Стракатую палавіну вёскі, адкладаў прадажу, хоць і вельмі былі патрэбны грошы на сынава вясельле.

Зямля ў нас не асаблівая, а таму пшаніцу рэдка хто сее. Загаварыў-жа я тут пра пшаніцу вось з якой прычыны.

Пасучы раз быдла каля панскага лесу, я даў на люльку тытуну дворнаму пастуху, які за гэта на маё запытаньне:—ад чаго бывае найдужэйшы бык—сказаў, што моцы найболей набірае ад пшаніцы, сталёвы робіцца.

Ну, думаю, цяпер я даведаўся. Трохі засталося пачакаць: брыкне Палавы дагары нагамі...

Прысуседзіўся я пасьвіць быдла на папары каля жытняга поля. А справа ў тым, што ў трох ці чатырох гаспадароў тут поруч было па паўганкоў пшаніцы: чакаю калі яе пажнуць.

Дачакаўся і гэтага. Пажалі, і нават я памагаў насіць снапы канцавой цётцы Марцэлі, як яна дажала.

* * *

На другі дзень, яшчэ досьветку, ганю быдла на папар. Ганю і дрыжу, каб хоць ніхто не перашкодзіў намалаціць з снапоў пшаніцы...

Рукі і ногі гойдаліся ў мяне, калі я ўзяўся за першы пшанічны сноп: страшна было і людзей і граху. Ужо і сам не памятаю, як




набіў пшаніцы з паўпуда. Але зноў бяда: дзеш даць яе быку? На шчасьце, як раз недалёка было старое глінішча, якое густа зарасло лазою ды іншым хмызьняком. Хутчэй бягу да яго, кладу з сьвіткаю пшаніцу ў самы гушчар і йду назад да быдла, бы ня лысы.

І ў самы раз справіўся, бо ў гэты момант ўжо пад‘яжджаў на кані Марцэлін чалавек, які, едучы з начлегу, задумаў паглядзець, ці цэлая пшаніца.

Вось тут я і перакалаціўся і душою і целам. Гаспадар агледзяў дзесяткі, убачыў шко-

ду і так пачаў праклінацца, што слухаючы гэта, мне лепш было-б праваліцца скрозь зямлю.

Думаю, што калі пойдзе шукаць сьледу і знойдзе ў глінішчы пшаніцу ў сьвітцы— прапаў я. Навекі застануся злодзеем... Доўга яшчэ праклінаўся і лаяўся Марцэлін гаспадар, але, урэшце, паехаў да хаты.

Адлягло трохі ў мяне ад сэрца. Тут я скіраваў быдла ў бок глінішча, заклікаў Стракатага за сабою і давёў яго да сьвіткі з пшаніцаю. Прывыкшы да сакрэтных спраў, Стракаты, азіраючыся ідзе за мною, а, звочыўшы сьвітку са збожжам, у кустох бягом паляцеў праз ямы. Лаза схавала Стракатага— нічога ня відаць...

Я вярнуўся да кароў, сеў на мяжы і думаю сабе:—цяпер дасягнуў усяго, хутка Палавы будзе духу баяцца майго Стракатага. Сьпі, Тамаш, спакойна, як пан; гуляй, Стракаты, па ўсіх чародах каралём.

Як куля наеўся мой стракаты, ледзь ногі перастаўляе, вылезшы з глінішча. Так цэлую раніцу ён больш нічога не хацеў есьці, толькі схмурнеў нешта.

Вясковы пастушок, хоць і малы чалавек, а добра ведае ўсе прыкметы. Калі карова жуе жуйку, значыць, ня хворая; калі рыкае— сумуе па цяляці, або хоча чаго іншага.

Пачаў я прыглядацца да свайго Стракатага і ў мяне ў ваччу пацямнела: ляжыць бык капіцаю, а жуйкі няма. Узагнаў яго, разглядаю з усіх бакоў: нейкі вельмі спакойны стаў Стракаты і за лішне тоўсты.

Страх напаў на мяне такі, што валасы паднімаюць шапку. Яшчэ далёка да паўдня, а я ганю быдла да хаты і плачу, бо Стракатага раздула, бы гару, і ён насілу валачэ ногі.

Мой бацька адразу ўбачыў, што Стракаты захварэў, зьбегаў у сьвіран па ключку і пачаў „спраўляць“ быка (мой бацька ўмеў „спраўляць“ жывёлу і па ўсёй вёсцы карыстаўся вялікай павагай).

— Што ён такое зьеў, можа жабу?— пытаецца ў мяне бацька.

А мяне аж трасца трасе—баюся прызнацца, што абкарміў быка пшаніцаю.

— Вось калі прышла бяда—думаю... Гэтак пакуль з быком здарылася, а што яшчэ будзе са мною?

Каб нішто не перашкаджала хвораму быку, запхнулі яго так-сяк у гумно, дзе бедны Стракаты адразу лёг на зямлю.

Сеў я каля яго і гарую. Баюся глянуць у вочы Стракатаму. А ён так сумна пазірае на мяне, як бы хоча сказаць, што яму вельмі трудненька. Стогне бедны Стракаты, сьлёзы з вачэй яго коцяцца па струкаватай яго шэрсьці...

Не абедаўшы і не палуднаваўшы пагнаў я ў поле адных кароў. Асірацеў я, асірацела і маё стада.

У полі месца не магу знайсьці. Што са Стракатым? Ці вытрывае?

Нашы прыхільнікі, што пакладалі на Стракатага вялікія надзеі, цэлымі грамадамі прыходзілі ў гумно паглядзець яго. Тут яны радзілі бацьку, чым лячыць быка. Адны казалі, што трэба напарыць палыну, наварыць і ўліць хвораму ў горла, другія даводзілі, што трэба абвязаць быка круцянём, якім абвязваюць грушы на „васілёву куцьцю“. Усё гэта прарабіў мой бацька, але нішто не памагала. Нашы прыхільнікі сумна разыходзіліся па хатах, бачачы, што ўжо нішто не паможа Стракатаму...

Прайшоў доўгі, цяжкі дзень. Насілу дачакаўся я вечару. Яшчэ далёка да панадворку, а я ўжо кінуў каровы і бягу ў гумно.

Бачу—мой Стракаты яшчэ болей аслабеў. Даю яму і хлеба і травы—нічога ня прымае. Галава ў яго стала халодная, вочы нейкія шкляныя.

Устаўшы на другі дзень чуць сьвет, паляцеў я ў гумно да Стракатага. Яшчэ на прыгуменьні спаткаў мяне заплаканы бацька і сказаў: „Ня-ма нашага Стракатага“.

Як я дабег і як упаў на свайго застыўшага таварыша, не памятаю. Казалі потым, што я крычаў немым голасам на ўсю вёску і рваў на сабе волосы...

Тут-жа, у гумне, выкапалі шырокую яму і ўвалілі ў яе нашага агульнага мілага Стракатага...

Адны, хіба, ластаўкі, шчабятаўшыя ў шчыту гумна каля свайго гнязда, зразумелі мой вялікі цяжар, які я прымушан быў хаваць ад усіх у самай глыбіні душы...

* * *

Мінула шмат усялякіх гадоў у маім жыцьці. Я ня толькі вырас, а нават пачынаю старэць. За гэты час перабывала ў мяне ўласных быкоў розных масьці, але ўсе яны забыліся.

Адзін Стракаты, аб якім я толькі што расказаў, стаіць у вачох маіх да сягоньня.

**Сымон Кашчына.**

# Ліст з-за мяжы.

*П'еса ў 2-х актах і 4-х малюнках.*

**Прымаюць удзел:**

У 1-м акце: Віцік, Лявонка, Зьміцер, Сымонка, Грышка, Пятрусь, Соня, Люба, Манька, Янка, піонэры.

У 2-м акце: Жак і П'ер—сябры дзіц. ком. групы, сьледчы, двое паліцэйскіх, малпа.

### Акт 1-ы.

*У піонэрскім клюбе.*

Сцэна ўяўляе з сябе пакой у піонэрскім клюбе. На сьценах малюнкі і лёзунгі, работы саміх піонэраў. Пасярэдзіне вялікі стол, кругом табурэткі і стульля.

Зьява 1-я.

На сцэне: Зьміцер, Сымонка, Грышка, Пятрусь, Соня, Люба і Манька. Яны сядзяць за сталом і малююць плякаты; Лявонка, лежачы доле, канчае маляваць вялікі плякат.

Соня: Колькі цяпер можа быць гадзін?

Люба: Мусіць, адзінаццаць ужо маецца.




Соня: Я бо думаю, што мне спаць захацелася.

Пятрусь: На тое ты і Соня, каб спаць хацець.

Соня: А ты на тое і Пятрусь, каб усіх дражніць.

Пятрусь: Ня вышла, брат. Пры чым тут дражніць?... А Пятрусь імя прыгожае!... (Гладзіць сябе па галаве):

„Петя, Петрык, Пятушок, залаты грабушок"...

Соня: Ну, які-ж у цябе залаты, ты-ж рыжы...

Пятрусь: Пакінем аб гэтым. Шаноўная Соня, я рад-бы выканаць вашу просьбу, але сьпяшаюся дакончыць маляваць нос злоснаму фашысту. Як вы думаеце, таварышы, пасадзіць яму на нос бародаўку, ці не?

Грышка: Хоць дзьве садзі, нам ня шкода.

Пятрусь: Дзьве—дык дзьве, здорава вышла!

Лявонка (устае з зямлі): Скончыў. Памажэце, таварышы, патрымайце за канцы, я пагляджу, як гэта будзе на сьцяне. (Сымонка і Люба паднімаюць падрыхтаваны плякат з лёзунгам: „Юнаму пролетарыяту ўсяго сьвету належыць будучына").

Лявонка: Ну, што... Як быццам нішто сабе вышла...

Грышка: Ня толькі нішто сабе, а і зусім добра.

Соня: Вельмі добра, твой плякат будзе самым лепшым.

Манька: А мне ўжо і працаваць ня хочацца. Усёроўна, у мяне нічога ня выйдзе: літары нейкія крывыя выходзяць і малюнак зусім дрэнны.

Грышка: Не вялікая бяда, трохі лепш, трохі горш. Ня ўсім-жа аднолькава рабіць, а плякатаў нам шмат патрэбна; мы ўвесь свой куток да Міжнароднага Дзіцячага Тыдню прыбярэм, як новенькі будзе.

Сымонка: Зьміцер, ты чаго гэта надзьмууўся? Даклад свой падрыхтаваў?

Зьміцер: Падрыхтаваў.

Усе: Ну, ну прачытай, прачытай! Вельмі цікава...

Зьміцер: Прачытаць вам увесь даклад? Не, ён вельмі вялікі, ды і ня хочацца мне. Вось пачатак мяне не задавальняе: усё лічбы і розныя гады, баюся што будзе даволі сумна.

Лявонка: А ты прачытай, мы абгаворым.

Грышка: Ну, пачынай-жа!

Соня: Узьлезь на стол, выйдзе як са сцэны.

Люба: Не, на табурэтку лепш.

Манька: Ціха! Пачынай, слухайце, таварышы!

Усе: Слухаем, слухаем!

Зьміцер (садзіцца за стол пад лямпаю): Ну, вось: „Пастанова аб тым, каб штогодна праводзіць сьвята Міжнароднага Дзіцячага Тыдню, была ў першы раз прынята ў пачатку 1925 г. ЦК Нямецкага Комсамолу і Комуністычным Інтэрнацыяналам моладзі".

Пятрусь: Дзе гэта, у Бэрліне?

Зьміцер: Але.

Грышка: Не перашкаджай, пасьля запытаеш.

Пятрусь: Пасьля я забыцца магу.

Зьміцер: Я чытаю далей: „1-ы Дзіцячы тыдзень праводзіўся з 28-га чэрвеня па 3-га ліпня ў 1921 годзе".

Пятрусь: А што...

Грышка і Люба: Маўчы, маўчы... Пасьля запытаеш.

Зьміцер: „Тыдзень быў праведзены самімі дзяцьмі"... (чытае даклад да канца, пасьля чаго дзеці ўхваляюць яго воплескамі).

Усе: Добра, добра! Маладзец! Вельмі добра!

Грышка (да Пятруся): Ты аб чым хацеў запытацца ў мяне?

Пятрусь: Цяпер ужо забыўся... (Агульны смех).

Лявонка: Аднак-жа нашы таварышы загасьціліся ля чужога кастра, а патрэбна было-б ужо вызначыць плян.



Люба: А плян яшчэ ня вызначаны?

Сымонка: Не, яшчэ. Вось падыйдуць таварышы, дагаворымся канчаткова, а пасьля на агульным сходзе і вызначым. Напэўна, кожнае звяно падрыхтуе і дасьць свой нумар...

Манька. І чаму гэта яны ня йдуць?

Сымонка: А галоўнае, Віціка няма.

Зьміцер: Ну, Віцік то прыдзе, на яго спадзявацца можна.

Пятрусь: Ды ён у нас маладзец. (За сцэнай чуваць харавая пасьня „Мы кавалі").

Люба: Ідуць, ідуць!

Соня (бяжыць да вакна): Дык гэта-ж яны—нашы таварышы. (Сьпевы што раз становяцца чутней. Пасьля заціхаюць. Уваходзіць Янка і піонэры—хлапчукі і дзяўчаткі).

Зьява 2-я.

Тыя-ж, Янка, хлапчукі і дзяўчаткі.

Сымонка: Чаго-ж гэта вы там увязьлі... Мы прачакаліся ўжо.

Янка: Нельга было раней.

Янка (запявае):

Мы піонэры рабочай сям'і,—
Дзеці свабодных савецкіх краін.
Сьцяг вызваленьня ўзьнімаем мы ўсе,
Да барацьбы мы рыхтуем сябе.

Янка: А я злажыў.

Лявонка: Што злажыў?

Янка: Песьню піонэраў усіх краін.

Зьміцер: Ну, ну паслухаем!

Янка: На вядомы ўсім нам матыў. Давайце сьпяем!

Усе піонэры: Зразумела, што сьпяем. (Пачынаюць сьпяваць):

Мы дзеці вялікай і вольнай краіны,
Мы дружна пяём, як адзін.
Над намі зара пралілася маланкай
І вера ў волю нам кажа—ідзі!..

Пятрусь: Вось каб пералажыць на ўсе мовы гэту песьню і паслаць дзецям усіх краін, каб усе сьпявалі адно і тое-ж.

Янка: Гэта з цягам часу будзе—аднак-жа ўсе людзі сьпяваюць „Інтэрнацыянал". А я да таго часу пастараюся напісаць сваю песьню яшчэ складней.

Пятрусь: Маладзец Янка!

Сымонка: Няхай жыве Інтэрнацыянальны пясьняр!

Усе: Няхай жывуць Юныя Піонэры ва ўсім сьвеце!.. (Хватаюць Янку і, ня гледзючы на яго крыкі, гушкаюць, узьнімаючы як можна вышэй. Уваходзіць Віцік).

Зьява 3-я.

Тыя-ж і Віцік.

Віцік: Каго гэта вы гушкаеце?

Зьміцер: Нашых замежных таварышоў—пролетарскіх дзяцей усяго сьвету, у асобе гэтага (паказвае пальцам на Янку) юнага піонэра, Янку Ларына.



Віцік: А ў мяне маюцца цікавыя навіны...

Усе: Што за навіны?.. Што?.. Кажы хутчэй! У чым справа?

Віцік: Я атрымаў адказ з Францыі...

Лявонка: Адказ на наш ліст?

Манька: Ды ня можа быць!?

Усе: Пакажы! Чытай хутчэй!

Віцік: Я атрымаў яго зусім выпадкова. Той-жа знаёмы, які ўзяў наш ліст, цяпер вярнуўся з камандыроўкі і прывёз адказ.

Пятрусь: Чытай, чытай хутчэй, а то ня вытрымаць ад чаканьня.

Віцік: Ліст быў напісаны пафранцуску,—нам яго пералажылі. У гэтым лісьце нашы францускія таварышы пішуць, як цяжка ім з'організавацца.

Янка: Нам патрэбна будзе прачытаць гэты ліст усім на нашым сьвяце.

Віцік: Вы ведаеце, што я надумаўся... Мы ўсё тое, аб чым пішацца ў гэтым лісьце, пакажам на сцэне—выйдзе пьеса з жыцьця францускіх таварышоў,—гэта будзе куды лепш, чым так прачытаць.



Лявон: Вось галава! Зробім п'еску і наша зьвяно яе паставіць,—гэта і будзе наш нумар на сьвяткаваньні.

Зьміцер: І да гэтага яшчэ мой даклад.

Янка: І мая песьня.

Люба: А хто будзе прымаць удзел?

Віцік: Зложым п'есу, разьмяркуем ролі і жадаючыя з дзяцей возьмуць удзел.

Усе: Давайце цяпер разьмяркуем ролі. Зразумела цяпер. Чаго-ж адкладваць...

Віцік: Ну, слухайце. (Усе садзяцца вакол яго, хто на стол, хто на табурэтку, а хто доле). Вось ён—ліст францускіх таварышоў.

(Заслона).

**Акт 2-гі.**

*За мяжою.*

Малюнак 1-шы.

Сцэна ўяўляе з сябе вуліцу. Вялікі плот, за якім відаць вугал дома. П'ер і Жак, крадучыся, увесь час аглядваючыся па баках, выходзяць на сцэну. У руках у ваднаго гаршчок з клеем. У другога—жмук прокламацый з буйным надпісам: „Ніхто не павінен ваяваць з Савецкай Краінай".

П'ер: Трэба тут наклеіць. У гэтым месцы жыве шмат беднаты.

Жак: Наклей. (Пачынаюць наклейваць на плоце адозву, але раптам пачулі шагі).

П'ер: Ідуць!.. Уцякайма!..

Жак: Ты пакуль што бяжы, а я трошкі папраўлю! Шкода калі вецер сарве.

П'ер: Бяжым разам, Жак, а то злапаюць. (П'ер, захапіўшы адозвы і гаршчок, бяжыць. Жак яшчэ папраўляе дрэнна наклееную адозву. У гэты час выбягаюць два паліцэйскія з рэвальвэрамі ў руках).

Паліцэйскія: Ты арыштаваны, здраднік! (Жак, зьдзіўлена паглядзеўшы на паліцэйскіх, папраўляе адозву).

Паліцэйскі: Ты арыштаваны, чуеш?

Жак: У мяне няма часу гутарыць з табою. Я павінен расклейваць гэтыя адозвы.

Паліцэйскі (пагражаючы рэвальвэрам): Досыць разгаварваць. Ты пойдзеш з намі і панясеш кару за сваю справу.

Жак (адыходзіць ад плота): Ці-ж ня праўда, добра наклеена? Самы моцны вецер не сарве, ня кажучы ўжо аб паліцэйскім.




Паліцэйскі (схапіўшы за каўнер Жака): Даволі разгаварваць! У паліцыі ўсё раскажаш.

Жак: А вы, відаць, людзі няпісьменныя.

Паліцэйскі: Дзеля чаго гэта патрэбна табе ведаць?

Жак: Вы нават не пацікавіліся тым, што тут напісана ў гэтай адозьве.

Паліцэйскі: Там напісана, каб такіх жэўжыкаў, як ты, секлі розгамі да крыві, тады будзеце ведаць, як трэба займацца гэткімі справамі. (Штурхае Жака). Ідзем, ідзем хутчэй! У паліцыі ўсё раскажаш.

Малюнак 2-гі.

Пакой сьледчага. На сьцяне вялікі партрэт нейкага гэнерала. У пакоі шафа, палічка з кніжкамі, стол, табурэткі. На стале тэлефон. Адбываецца допыт Жака ў прысутнасьці двух паліцэйскіх.

Сьледчы (у паліцэйскай форме): Цябе злавілі пры расклейцы адозваў аб дзяржаўнай здрадзе. Ці прызнаешся ты ў тым, што ты гэта рабіў?

Жак: Не! Я наклейваў адозвы не аб здрадзе. У маіх адозвах гаворыцца толькі аб тым, што ніхто не павінен ісьці на вайну супроць Савецкай улады.

Сьледчы: Гэта адно і тое-ж. Але калі ты прызнаўся ў тым, што ты іх расклейваў, то скажы таксама, хто табе даручаў гэта рабіць, таму што, напэўна, ты ня сам гэта выдумаў.

Жак: Сам і ніхто мне нічога не даручаў.

Сьледчы: Але ў цябе былі таварышы, якія табе дапамагалі ў гэтым. Цяпер-жа назаві прозьвішча сваіх таварышоў і скажы дзе яны жывуць.

Жак: Я нічога не скажу.

Сьледчы (грозна): Ты нічога не скажаш? Ты павінен сказаць! (Жак маўчыць, тады сьледчы мяняе тон і пачынае дапытваць Жака ўжо больш мяккім голасам). Ну скажы, хлопчык. Табе-ж нічога ня будзе, калі ты скажаш, хто табе дапамагаў. Скажы нам гэта, і мы цябе пусьцім дамоў, ды яшчэ пачастуем смачнымі рэчамі. (Паліцэйскаму). Нясі. (Паліцэйскі ўваходзіць і ўносіць розныя салодкія рэчы і грушы). Сядай. Напэўна змарыўся ад расклейкі. Вось шакалад, апяльсіны. Бяры, што табе падабаецца.

Жак: Я да такіх рэчаў ня прывык—гэта раз, па другое—паліцэйскі, калі мяне арыштаваў, дык абяцаў пачаставаць смачнымі розгамі, а вы чамусьці частуеце мяне салодкімі рэчамі.

Сьледчы. Розгамі мы частуем тых, хто нічога ня хоча гаварыць, а так робяць толькі дурныя хлапчукі. Мы іх і караем розгамі. Але ты, хлопчык, відаць, разумны і ўсё нам раскажаш. Праўда гэта, ці не?

Жак: Большая частка, з пакараных вашымі розгамі, мае таварышы, а між іншым, гэта хлапцы вельмі разумныя, аб гэтым казалі нават дарослыя. Дарма вы кажаце аб іх гэтак.

Сьледчы: Значыцца, ты нічога ня хочаш нам расказаць. (Жак ківае галавой). Ты кажаш, што табе ніхто не даручаў расклейваць адозвы. Выходзіць, што гэта ўсё ты рабіў сам, сваім адумам. Але ты ня ведаеш, што напісана ў гэтых адозвах?

Жак: Як не ведаць, калі я іх сам пісаў. Я ўжо вам сказаў, што было там напісана: „Ніхто не павінен ісьці на вайну супроць Савецкіх краін".

Сьледчы: А чаму ты так любіш Савецкую краіну, калі ня хочаш, каб з ёй ваявалі.

Жак: У Савецкіх краінах цяпер улада рабочых і сялян, а кожны рабочы, селянін і дзеці павінны падтрымліваць Савецкую рабоча-сялянскую ўладу.

Сьледчы: Дык чаму-ж ты ня едзеш у гэту самую Савецкую краіну, калі яна табе падабаецца.

Жак: Там і бяз мяне многа комуністаў, а тут, у Францыі, я прынясу больш карысьці нашай партыі.

Сьледчы: А ты каго ведаеш з галоўных расейскіх бальшавікоў.

Жак: Усіх ведаю па партрэтах: Леніна, Сталіна, Зіноўева.

Сьледчы Ты, відаць, ужо зусім сьвядомы комуністы.

Жак: Я толькі рыхтуюся стаць комуністам.

Сьледчы (крычыць): Дык вось які ты нягодны! Мы табе дапаможам стаць комуністым! (Паліцейскім). Памажэце яму стаць комуністым! (Паліцэйскія падыходзяць да Жака і пачынаюць біць яго кулакамі. Жак адскаквае ў бок. Прысядае, стараецца ўхіліцца ад udараў. Часта кулак аднаго паліцэйскага б'е па твары другога паліцэйскага).

Сьледчы: Завядзеце яго ў пакой! (Паліцэйскія злосна штурхаюць Жака, выводзячы з пакою. У гэты час за вакном чутны дзіцячыя галасы з матывамі рэволюцыйных песень). Няўжо новая дэмонстрацыя гэтых комуністычных клапоў? Аднаго раздавіш—дзесяць новых выпаўзаюць. (Уваходзяць паліцэйскія). Вы да яго гэтай ноччу пусьцеце малпу, хай спужаецца, закрычыць і тады ўсё раскажа. (Дзіцячая дэмонстрацыя падышла да вакна. Чуюцца галасы: „Вызвальце нашага таварыша Жака“, „Далоў зьдзекі над дзецьмі“, „Хай жывуць вольныя дзеці“, „Хай жывуць дзеці Савецкай Расеі“. Сьледчы крычыць у вакно). Разыходзьцеся, а не, дык разгонім вас, як разагналі пазаўчора!

Галасы за вакном: Вызваліце нашага таварыша Жака! Мы ня пойдзем, пакуль вы не задаволіце нашых патрабаваньняў!

Сьледчы. Ён ужо вольны і пашоў да хаты.

Галасы за вакном: Няпраўда! Ён у вас, у падвале! Давайце яго сюды!

Сьледчы (адыходзіць ад вакна і дае загад паліцэйскаму): Разагнаць іх! Папрабуйце раней розгамі, а потым і шаблямі. (Паліцейскія ўваходзяць. Праз некалькі хвілін чутны за вакном дзіцячыя выкрыкі і плач. Гэта паліцэйскія разганяюць дзіцячую дэмонстрацыю).

Сьледчы (глядзіць у вакно): Так іх, комуністычных чарцей! Ледзь з пялёнак вылезьлі, а ўжо дэмонстрацыю робяць! (Злосна ўсьміхаецца). Жака вам?! Прыдзеце ўначы, паслухайце, як ён крычаць будзе, малпа зробіць сваю справу!..

*(Заслона).*

Малюнак 3-ці.

Цёмны, брудны падвал. Жак ходзіць па камеры, сьпяваючы песьню.

Жак: Даволі няпрыемны адпачынак. Цёмна, гразна, сумна. Хоць бы крысы былі тут для забавы да і тых няма. Відаць баяцца каб іх не загітаваў. А можа крысы самі добрыя патрыоты, што нават ня хочуць спатыкацца з комуністымі. У агульным—сумна. (Працягвае песеньку, раптам пачуў шум і застанавіўся). Гэй, хто тут! (Угледаецца ў цемру). Відаць мне здарылася. (Хоча ісьці далей, але шум паўтараецца. Жак пачынае прыслухоўвацца). Нехта стукаецца у сьценку. Мне дарослыя таварышы расказвалі, як яны ў турме перагаварваюцца па азбуцы Морзэ. (Прыслухоўваецца далей). Да. Нехта стукае (Падыходзіць да сьцяны і прыслухоўваецца, потым адскаквае). Ура. Усё зразумеў. Таварыш кажа, што да мяне пусьцяць абязьяну і каб я яе не баяўся. Добра што сказаў. (У часе гутаркі ў камеру ўваходзіць абязьяна). Ты ўжо тут? Будзь здароў таварыш! За што цябе арыштавалі? Так сама за дзяржаўную зьмену? (Абязьяна варчыць). Вось бачышь, пачынаем нават разумець друг друга. Хутка будзем разам і праклямацыі расклейваць. А як цябе завуць? (Абязьяна варчыць). Як, нічога не зразумела? Ну, добра. Назаву цябе Люке, па прозьвішчы паліцэйскага сьледчага (Абязьяна варчыць). Што, ня хочаш насіць імя паліцэйскага? Добра? Назаву цябе Тарзанам. Добра? (За час гутаркі Жака з абязьянай у камеру ціха ўваходзяць два паліцэйскіх і наглядаюць за ім).

Паліцэйскі: Бедны!.. Згубіў розум у вобшчасьцьве абязьяны. (Да Жака): Ты тут пасядзі зараз прыдзе доктар і агледзіць цябе (выходзіць).

Жак: Доктар прыдзе? Хай ён агледзіць і таварыша абязьяну. У яе тэмпэратура павышана. Горача было сядзець каля яе.



Паліцейскі (выходзіць і пакідае дзьверы адчыненымі): Згубіла яго абязьяна. Звар'яцеў канчаткова.

Жак (глядзіць на дзьверы). Хоць яны і лічаць мяне вар'ятам, але я ўсё добра разумею. А між іншым вар'ятам я буду тады, калі не скарыстаю гэтага выпадку і не ўцяку. (Бяжыць да дзьвярэй і ўцякае). Мы яшчэ паваюем.

Віцік (вылазячы з суфлёрскай будкі). Вось, таварышы, ўсё, што апісваюць францускія дзеці ў сваім лісту. Хай адвага Жака будзе прыкладам і для нас піонэраў Савецкай Рэспублікі. Хай кожны з нас імкнецца дапамагчы дзецям другіх старонак аслабаніцца ад капіталістычнага ўціску.

Таварышы! На дапамогу нашым заходнім братом, будзем гатовы!

*(Заслона).*

**Е. Двінская і З. Сталін.**

(З расейскага).

# КРЫМ.

Часта чуў Міколка ў сваім атрадзе піонэрскім, у сваёй сям'і, як гавораць на хворых людзей:

— У Крым-бы табе паехаць ды паправіцца, а то памрэш хутка.

Гэтыя словы прымушалі піонэра Міколку плакаць. Міколка ведае і нават добра, што ён хворы сухотамі, што здароўе яго горшае кожную гадзіну, што калі яшчэ ў такога малога ды сухоты, дык як-жа яму дажыць да старасьці, як яму, беднаму хлапчуку, пабачыць і палюбавацца харастом жыцьця!?

— Відаць ужо і жыцьцё мае такое... скардзіцца няма на каго,—так разважаў часам Міколка і гэтым разважаньнем суцяшаў сябе. Успамінаў яшчэ



Суук-Су. (Па фатагр. Х. Д. Бедніцкага).

Міколка і іншых хворых сухотамі, што ня сёньня, дык заўтра памруць і пакінуць пасьля сябе дзетак сіратамі.

Яшчэ больш суцяшаў Міколку, дапамагаў забыцца аб сваёй болі ў хворых грудзях, аб надаедлівым штохвілінным сухім кашлі, той час, калі ён чытаў кніжкі, або „Беларускі Піонэр".

Блізкіх таварышоў Міколка ня меў, бо дзеці баяліся, каб і самім не набрацца гэтай паганай хваробы, ды бацькі загадвалі ім не сябраваць з хворым хлапчуком.

І зсябраваўся Міколка з кніжкамі, часопісьсю Ён палюбіў іх, як сваю матку. З імі ён меў права пагутарыць, паплакаць, пасьмяяцца, з імі ён хадзіў на рэчку, у лес, з імі дзяліўся Міколка сваім горам.

Крыху лячыўся Міколка ў местачковага фэльчара. Але якое там лячэньне?—Прыпіша фэльчар лякарства, а яго ў местачковай аптэцы і няма, а ў горад ехаць няма за што.

Час сьмерці блізіўся і блізіўся. Пад вачыма ў Міколкі нараджаліся і расьлі чорненькія, як вугаль, ямачкі. Кашаль і боль не давалі супакою.

Аб тым, што ён можа паправіцца, што яго шчочкі загарацца чырваньню—Міколка і думаць не хацеў. Ён быў пераконан у сьмерці. Ён уяўляў момант свае сьмерці, халадзеньне цела, плач маткі, бацькі, сястрычак. Потым прыдзе піонэрскі атрад, возьме яго чырвоную дамавіну, занясе на могілкі і... апусьціць у сырую... зямельку.

Міколку плакаць не хацелася, але-ж сьлёзы... сьлёзы самі... Яны абмывалі закапцелае больлю сэрца, буйнымі кроплямі выцякалі з маленькіх упалых воч і па зрэбнай кашулі скатваліся на зямлю.

* * *

Ня менш адчуваў сябе хворым і Сьцяпан—бацька Міколкаў, гледзячы на пакуты сына.

Сьцяпан заклінаў бога, што паслаў той на яго такую бяду...

Неяк выбралі Сьцяпана на акруговы зьезд саветаў. Будучы ў акруговым горадзе зайшоў Сьцяпан у акруговы аддзел па ахове здароўя. Расказаў там скрозь сьлёзы ўсё, скардзіўся на жыцьцё сваё дрэннае.

Загадчык адзелу паабяцаў Сьцяпану пастарацца дапамагчы сродкамі ў пасылцы сына ў Крым на курорт і прапанаваў прывезьці хворага да іх на камісію.

З нейкаю радасьцю на душы, з падзякай Савецкай уладзе, зьвярнуўся Сьцяпан са зьезду. Быў рад і Міколка, што паедзе ў горад, што на яго здароўе будзе глядзець не местачковы фэльчар, а некалькі вопытных дактароў.

**Міколка едзе на курорт.**

Была прыгожая ліпнёўская нядзелька... З вёскі выехаў Сьцяпан. За возам ішоў піонэрскі атрад—праводзіў Міколку на курорт...

Вярсты са дзьве ад вёскі, каля лесу, разьвіталіся піонэры з Міколкам: пісаць прасілі, наглядзецца ўсяго і памятаць, каб потым расказаць, пазнаёміцца хоць з адным крымскім атрадам піонэраў...

На станцыі... Цягніка яшчэ ня было і ня хутка меўся прыйсьці, але Сьцяпан дастаў з-за пазухі паперы на дармовы праезд, што атрымаў у акрузе і першым стаў у чаргу за білетамі.

Міколка сядзеў моўчкі на возе, паглядаў на вялізарную камяніцу станцыі, прыслухоўваўся, як перамаўляецца стрэлачнік з паравозам, што вазіў то ўзад, то ўпярод ахварбованыя ў чырвоны колер вагоны. Ужо ад аднаго гэтага невялічкага шуму і ляскатаньня бліскучых калёс вялізарнай запацеўшай машыны, нашаму Міколку рабілася маркотна, сэрца журбавала па рэчцы, што каля гуменца цячэ, ды аб чоўніку паколатым, што ляжыць пад алешынай...

Вышаў з станцыі бацька. Яго левая рука асьцярожна трымала дзьве не аднолькавага колеру паперкі. Падышоўшы да воза, загаварыў разьвітальным тонам з Міколкай:

— Вось табе, сынок, бялеты. Пільнуй, не згубі, каб на дарозе ня высадзілі.

І худзенькая, з доўгімі пальцамі, ручка Міколкі моцна сьціснула білет, а на вачох яго, ці то ад радасьці, ці то ад смутку перад ад'ездам у вялікую дарогу, у куточку вачэй вырасьлі срэбраныя капелькі сьлёз.



Сьцяпан гэта заўважыў, перасьцярог свае вочы ад сьлёз, пацёршы па іх паказальным пальцам і пачаў гаварыць сыну свае бацькаўскія навучаньні:

— Глядзі ўжо, Міколка... не балуйся ў вагоне, асьцярагайся, у вакно лішне ня высоўвайся, а то... выкінуцца яшчэ гатоў... на станцыях не адбягай далёка ад цягніка, каб не застацца... я-ж кажу, глядзі ўжо, ты-ж не маленькі...

Міколка, у адзнаку вялікай падзякі за навучаньні і за згоду з імі, прыціснуўся да загарэлай, прапітанай потам, бацькаўскай рукі сваімі тоненькімі губкамі і шчыра-шчыра пакінуў пацалунак.

Гэта было разьвітаньне сына з бацькам... Калі дым паравознай трубы ўліўся ў блякітныя хмурынкі і станцыя напоўнілася ранейшай цішынёй— Сьцяпан паправіў на сваім кані сядзёлку, выбраў з хамута грыву, памацаваў дугу, атосы, сеў на зялёненькае сена, што служыла сядзеньнем на возе, і паехаў да хаты...

### У вагоне „Менск—Севастопаль".

У летні час, калі шмат людзей з Беларусі едзе лячыцца на курорты, адпачываць на бераг мора— ходзяць вагоны простых зносін. Яны так завуцца таму, што пасажыр ня мае нідзе перасядкі, а едзе проста аж да месца.

І Міколка ехаў у вагоне, што з боку на чорненькай дошчачцы жоўтымі літарамі напісана:— „Менск—Севастопаль"...

Праваднік вагону з пакрытым пылам тварам падышоў да Міколкі, узяў у яго білет, а ў замен яго напісаў квіток.

Каб зразумець, чаму так робіцца, Міколка запытаўся аб гэтым у чарнавокай, з падстрыжанымі кучаравымі валасамі дзяўчыны, што ляжала проці Міколкі і чытала кніжку.

Яна яму растлумачыла, што ўсе, хто едзе ў гэтым вагоне, маюць спальныя месцы. Гэта значыць, што цэлая лаўка—твая. Маючы такое месца, ты можаш спаць днём і ноччу. А кантроль правярае білеты амаль што на кожнай станцыі. Дык вось, каб не разбуджваць кожны раз пасажыраў, праваднікі такіх вагонаў зьбіраюць білеты, трымаюць іх у сябе і калі трэба—паказваюць контролю...

Праз вакно любаваўся Міколка незнаёмымі вёскамі, станцыямі, незнаёмымі рэчкамі, рачушкамі, пастушкамі.

А цягнік, пад стогн калёс чорнага паравозу, ўсё ляцеў і ляцеў упярод.

Прад вачымі Міколкі ўжо прамільгнулі: Бярэзіна, Дняпро, Сож. Ён бачыў, як у глыбокіх водах плёхаліся дзеці, як дарослыя жартавалі з чоўнам, або лодкай, хочучы іх затапіць; ён адчуваў тую сібернасьць, якая маніла туды і яго...



Бачыў Міколка, як за Гомельшчынай лясы пачынаюць радзець, крывыя лініі паверхні выпрамляцца, узгоркі і капцы зьнікаць з пагляду людзкога. Гэта бяжыць цягнік па стэпах Украіны.

Бязьмежная стэп, бязьмежная, як акіян, убраная зелянівою пшаніцы і кукурузы, прыгожасьцю вішнёвых садзікаў і бялізнаю ўкраінскіх хат.

Міколкіны вочы ня могуць адарвацца ад бялюткай хахлацкай хаты-мазанкі, што блішчыць сваёй стройнасьцю з вішнёвага садзіку.

Міколка ня мог стрымаць вольнасьці сваіх дум. Яму хацелася ўсю сваю ўвагу аддаць таму цікаваму, першы раз бачанаму, бязьмежнаму абшару суседніх народаў, прыпомніць сыноў Бульбы, іх казацкую сьмеласьць, салдацкую спрытнасьць.

І ў галаве малаточкамі стукала. А ў гэтым стуку адчуваў сябе Міколка маленькім гэроем вялікай казкі, лягенды...

Па дарозе цягнік часта даганяў сялянскія параконныя падводы, любаваўся, як загарэлыя паўднёвым сонцам маленькія украінчыкі маталі шапкамі, і хутка хаваўся за небасхілам...

### Дзеці вуліц.

— Дзядзенька, дайце капеечку!

— Цёценька, на хлеб капеечку!

— Дайце капеечку... цэлы дзень нічога ня еў!—такія папрашанкі чуюць пасажыры на кожнай вялікай станцыі.

Гэта просяць—дзеці вуліц.

Гэта—бяспрытульныя.



Іх тварыкі чорненькія, як сажа. Толькі вочкі—хітрыя вочкі—сьвецяцца на фоне чорнага тварыка. Вопратка парваная і замурзаная.

Глядзеў Міколка на дзяцей, якія ня маюць матак, прыстанішч, часта бяз прозьвішч і зразумеў, чаму зьбіраюць сродкі для бяспрытульных...

### Ад Севастопаля да Ялты аўтомобілем.

У вагоне пазнаёміўся Міколка з дзяцькам Гаўрылам. Ён з Менску і ехаў у тую самую санаторыю, што і Міколка...

Роўна праз два дні і дзьве ночы, зморany цягнік ахвотна прабягаў апошнія тунэлі, апошнія станцыі, стараючыся прыйсьці ў Севастопаль у цьвёрда вызначаны час...

Севастопаль. Міколка і Гаўрыла, ўвашоўшы ў вялізарную станцыю, зьвярнуліся да чалавека з белай павязкай на рукаве.

Гэта быў дзяжурны ад Ялцінскай Курортнай Управы.

Чалавек з павязкай хутка сабраў усіх хворых, што прыехалі на курорт і павёў да аўтомобіляў, што ў шарэнгу стаялі на другі бок станцыі...

Па пыльнай белай дарозе выяжджаюць тры пакрытых аўтомобілі з надпісамі „Крымкурсо“. Гэта едуць хворыя папраўляць свае здароўе.

Тут і Міколка. Ён, прыціснуўшыся ў куточку, адчуваў, як мякка падкідае яго машына і любаваўся вялізарнымі горамі, што ляжалі прад ім.

Ён бачыў, як аўтомобіль раз-по-разу спускаўся ў нізіны, потым зноў узьнімаўся па крывой сьцежцы ў гару, робячы крутыя павароты, ад чаго людзі ў аўтомобілі падаваліся ў адзін адваротны бок і прыціскалі крайняга да сьценкі.

Наперадзі вялікая чырвоная гара, а ў гары малюсенькая чорная плямка...

Міколку хочацца пад'ехаць да яе бліжэй, палюбавацца казачнай прыгожасьцю. І што-ж!.. жаданьні Міколкі спаўняюцца. Аўтомобілі проста мчацца да вялікай гары і хаваюцца ў тэй дзірцы, што здавалася Міколку малюсенькай плямкай.

Потым выскачылі, як горныя бандзіты, машыны з тунэлі і пакаціліся ўніз, пакідаючы пасьля сябе вялікія хмары пылу.

Засталіся ззаду ад Лімены, Сімеіз, Алупка, за якой, на не далёкай адлегласьці адна ад другой цягнуцца мясцовасьці Місюр, Карэіз, Гаспра, Ай-Тадор.

Шасэ зноў падымаецца на гару.

І там, за Архандай, за Лівадзіей, дзе раней раскашалася царская сьвіта, цяпер лечацца соткі сялян, Чукурларом—распласталася шумлівая, убраная ў вяршыны гор Ялта.

### У тубэркулёзным інстытуце.

У інстытут прыехалі ўжо прыпацёмкамі. Санітарныя сёстры бегалі, разводзілі хворых, налажвалі ванны, абмывалі, давалі чыстую бялізну, вызначалі ложкі, кармілі, адпраўлялі спаць.

На заўтра ўсе падняліся па званку.

Прыехаўшых новых павялі ў габінэты. Там кожнага хворага доўга аглядалі, стукалі рознымі залезцамі па грудзях, загадвалі:—дыхайце, пакіньце і г. д.; важылі, хто колькі важыць, аб кожным пісалі на паасобных вялікіх лістох, формавалі аднолькава хворых у паасобныя групы, давалі піць зельле і адпраўлялі ў сталоўку сьнедаць...

Пасьля сьнеданьня, калі крымскае сонца выскалілася з-за высачэзных Ялцінскіх гор і сваім срэбраным бляскам асьвяціўся кіпарысавы сад „Масандра“—хворых вывялі на пляж.

Пляж—бераг мора прыстасаваны для добрага купаньня і прыйма сонечных ван.

Тут быў і Міколка. Ён, як і ўсе іншыя хворыя, хадзіў у адных толькі трусіках. Гэта яму вельмі спадабалася і Міколка ад радасьці аж падскакваць пачаў.

Адчуваў Міколка вялікую перамену клімату. Яму ялцінская марская паветра здавалася нейкай пахучай, прыемнай, чыстай, зусім не падобнай да беларускай. Ён яшчэ і не лячыўся, а ўжо кашляць перастаў, боль ад яго грудзей адпала.

Тымчасам сонца пачало падымацца і сваімі гарачымі праменьнямі, як пастух пугаю, пагнала хворых у морскія хвалі. Адны, што нядаўна прыехалі, яшчэ баяцца далёка лезьці, а плёхаюцца каля берагу мора. Каля іх і Міколка, за сынка капошыцца, хоць і плаваць умее.



Ялта. Дарога у Туб-Інстытут.

Другія, што ўжо тыдняў па тры лечацца—каменем кідаюцца тут, у адным месцы, а бронзавым вокунем выплываюць там, у другім больш далёкім месцы, і плывуць, як морскія львы далёка-далёка ў мора.

Пасьля купаньня ў салонай, чорнай ад свайго смаку вадзе, хворыя выцягваюцца ва ўсю даўжыню свайго худога цела на пляжы, і так прымайстроўваюцца, каб пацалункі сонца смакавалі не адно месца, а ўсю постаць адразу.

І толькі ў поўдзень, калі каля вялікіх белых камяніц прагучыць званок, хворыя, распаленыя сонцам, ляніва падымаюцца і ідуць палуднаваць.

Пасьля полудню—зноў габінэты, зноў мора, толькі ня ціхае і ня чорнае, а сіняе ад хваль, што адна адну абганяе, што адна з другой абдымаюцца і разам налятаюць на трэцюю; зноў сонца і гарачы пясок, вясёлыя крыкі і песьні людзей, якіх толькі галовы, як мячыкі, падскакваюць ад хваль, пакрываюцца імі. А там вечар, вячэра, адпачынак...

І так, пад сьпеў морскіх хваль, пад вясёлую гульню сонца з вяршынамі высачэзных гор, што

абрывамі ўпіраюцца далёка ў мора і прыслухоўваюцца да музыкі ветру і вады, пад прыемны, мяккі і лагодны шэлест кіпарысаў, вялізарных таполяў Міколка дужэў, бранзавеў сваім колерам, гарэў сьветлай надзеяй прыгожага і доўгага жыцьця...

А час—гэты бурны вецер! Ён ня прыслухоўваецца да музыкі струн душы чалавечай, ён ня хоча лічыцца з жаданьнямі, імкненьнямі Міколкі. Час так хутка ляціць, дні бы тыя хвалі пад ветрам—нараджаюцца, паміраюць. І так хутка-хутка!



**На яліку ў мора.**

У апошнія дні прабываньня на курорце Міколка адчуваў сябе зусім здаровым: кашаль прапаў, боль забылася, яе ўжо няма ў грудзях.

Аднаго разу пад вечар курортнікі сабраліся катацца на парусных яліках. Ялік—вялікая лодка, у якой могуць ехаць чалавек 8—10.

Белыя палатняныя парусы паднялі і вецер панёс ялікі напоўненыя курортнікамі ў мора.

Хвалі яшчэ ня думалі адпачываць, і радасна падбягалі да ялікаў, хваталі іх зьнізу, падымалі ў верх, а потым самі хуценька ўцякалі, хочучы затапіць едучых. Але дзе там! Новая хваля падбягае, робіць тое самае і пускаецца даганяць папярэдніх... і так бясконца.

Ялікі, як трэскі, блішчэлі ў моры, хаваліся паміж хваль, узьбіраліся на верх, паказваліся і плылі далей...

Сонца зыходзіла з гор і там далёка, на другім беразе мора, вісела над вадой і, як быццам, хацела абмыцца пасьля дзённай працы, але... не асьмельвалася.

Міколка ніколі ня бачыў такога вялікага сонца, як яно тут, на моры...

Схавалася сонца. Павярнулі ялікі назад. Ялта засьвяцілася агнямі, маякі запалілі фанары...

**Мора ў буру.**

Міколка начаваў апошнюю ноч у Ялце: яму заўтра трэба ехаць дамоў, ён адбыў свой час, ён—*папраўіўся*.

Як весела, як прыемна! Прыехаць дамоў з далёкага краю, дзе ў вялікай дружбе мора, горы і сонца, расказваць свайму атраду—што можа быць даражэй?!

У гэту апошнюю ноч паднялася бура на моры.

Міколка і яшчэ некалькі курортнікаў пашлі на круты бераг...

Мора зьбіралася гуляць, мора пачынала шалець!..

Вось бяжыць хваля, вясёла, моцная хваля стукнецца сваімі грудзьмі ў скалу і разьбітая надзеямі адплывае назад, спатыкаецца з новай хваляй, мераюцца сіламі і хваля-пераможца з сілай стукаецца аб скалу і разьбіваецца на дробязі... Толькі пена ад яе застаецца.

А скала стаіць сабе горда, пасьміхаецца ў бараду начной цемені.

Глядзеў Міколка—і наглядзецца ня мог... У здаровых грудзях стукала сьвежае сэрца і загадвала Міколку разьвітвацца з морам, хвалямі, горамі, бо заўтра—да хаты!

**Зьм. Паваротны.**

---

# Змычка.

*Масавая дэклямацыя—інсьцэніроўка.*

**Прымаюць удзел:**

1. Атрад піонэраў.
2. Сялянскія дзеці.
3. Піонэр.
4. Сялянскі хлопчык.

**Сялянскі хлопчык.**

*(Уваходзіць і аглядаецца).*

Хто гэта?.. Чый гэта шаг
Там па за вёскай, у полі?
Чуеш, бліжэй?!. Нават сьцяг
Паланее ў зялёным прывольлі.

*(Падыходзяць сялянскія дзеці).*

Дзеці, хутчэй да мяне!
Гляньце, вунь там, за нівай
Радасьць аўсоў плыве
Ў песьнях дзяцей шчасьлівых.
Чуеце?!. гэта яны
Лета, што ў лягерах жылі.
Ў вечары нам пры кастры
Аб Ільлічы гаварылі.

**Сялянскія дзеці.**

Памятаем!.. Гэта атрад
Да нас ідзе піонэраў.

**Атрад піонэраў.**

*(Уваходзіць і застанаўліваецца).*

Песьняў гучы набат
Юных, вясёлых, сьмелых.
Сёньня да вас мы прышлі
Ў сьвята дзіцячага тыдню,

*(Па малу).*

Рабочай абліты крывёй
Царскіх забойстваў гады...

**Сялянскія дзеці.**

Змычка вёскі і гораду
Нашай Рэспублікі гордасьць.

**У с е.**

Саюзам сярпа і молата
Выкрэсьлім мы безпрызорнасьць.

**Атрад піонэраў.**

І каб нашы рады памножыць
Тут мы збудуем атрад.

**Сялянскія дзеці.**

Горад цяцер дапаможа!

**У с е.**

Горад да вёскі брат!

*(Падаюць рукі, піонэры-сялянскім дзецям).*

**Піонэр.**

Гэй, вы, нас Захад чакае,
Дапамогі чакае ад нас!..

**У с е.**

З Камінтэрнам мы разам спаткаем
Радасьць наступнага дня.

*(Недзе іграе горн).*

**Піонэр.**

Чуеце, гэта горн.
Сёньня ён нас заве.
Хай-жа за волю цяпер
Піонэрскі атрад ідзе.

**У с е.**

Дзіцячага тыдню дні.
Лёзунгаў пылаюць агні.
Змычка дзяцей усіх краёў.
„Дзеці рабочых жывём“.




## Вынікі вучэньня нашых піонэраў у школе.

*(Менск, 22 атрад пры доме Чырвонай Арміі).*

Усяго піонэраў у нашым атрадзе 40 чалавек. З іх 35 вучыцца ў школе. Цяпер, калі заняткі ў школах скончыліся, можна сказаць пра вынікі працы нашых піонэраў у школе.

З 35 чалавек, якія вучацца ў школах, толькі тры засталося на другі год, а 32 перайшлі ў наступныя групы. Судзячы па ліках, можна сказаць, што посьпехі добрыя. Гэта тлумачыцца тым, што ў працягу ўсяго навуковага году рабіўся падлік таго, як той ці іншы піонэр вучыцца. А гэтым даведваліся пры дапамозе розных справак праз форпост і школу. Таго піонэра, які вучыўся дрэнна, вызывалі на савет атраду, рабілі яму выгавор. У зьвязку з гэтым многія піонэры ўзяліся сур'ёзна за вучэньне.

**І. Сапір.**

## Курсы павадыроў груп акцябрат.

*(м. Асіпавічы, Бабруйскае акругі).*

У нашым мястэчку ў большасьці пры атрадах юных піонэраў няма груп акцябрат, а дзяцей акцябратскага ўзросту шмат. Раённае Дзіцячае Бюро прыняло гэта пад увагу і з 21-га лютага склікала двухтыднёвыя курсы па падрыхтоўцы павадыроў груп акцябрат. Заняткі праходзяць па добраапрацаванай програме. З курсантамі праведзена гутарка на розныя тэмы, як напрыклад: псыхалёгія дзіцяці, дашкольнае выхаваньне, мэтад працы ў групе і інш.

Заняткі праходзяць рэгулярна і ажыўлёна. Кепска толькі, што праца ідзе не на беларускай мове.

Можна спадзявацца, што пры кожным піонэратрадзе ў хуткім часе будуць групы акцябрат.

**М. Вярнікоўскі.**

## Замест часопісі—духі і пудра.

*(Мястэчка Пухавічы, атрад № 2.).*

Пырскаюцца духамі і пудрацца піонэркі Пухавіцкага атраду № 2. Дуракоўскія Тоця і Ніна і Кургіна Гэня, ня гледзячы на тое, што аб гэтым гаварылі ня раз на вечары спайкі паміж піонэрамі і камсамольцамі. Можа лепш было-б, каб на грошы, згубленыя на пудру і духі, выпісалі „Беларускі Піонэр“. Апрача таго, пудрыцца шкодна, аб чым ня раз казалі ў атрадзе.

**Піонэры.**

## Атрымалі карысьць.

*(Драбінскі атрад імя Адамовіча).*

Задумалі мы зрабіць экскурсію ў Горкі. У зьвязку з тым, што 18 вёрст для дзяцей прайсьці цяжка, дык мы выбралі старэйшых ад 14 гадоў. Каля гораду нас сустрэлі гарацкія піонэры. На другі дзень мы пашлі аглядаць заводы і рабочыя ўстановы. Былі ў Рабочым Клюбе, потым пашлі на электра-станцыю. Працаўнік Горацкай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі расказаў, як працуе дынамо, і як яна дае сьвет. Пасьля пашлі ў друкарню, дзе пазнаёміліся як друкуюцца кніжкі і газэты. Увечары хадзілі ў кіно. Там замацавалі сувязь з гагарацкімі піонэрамі. Дзеці засталіся здаволенымі.

**Пячкоўскі.**

## „Санітар“ працуе.

*(Асіповічы, 11-ты піонэр-атрад імя Крупскай).*

У нашым атрадзе 3-цяе зьвяно носіць назву „Санітар“. За адзін месяц шчырае працы зьвяна, пры напружанай працы павадыра зьвяна, мы маем шмат дасягненьняў. У нашым зьвяне маецца аптэчка, якая дала вялікую карысьць нам у лягэры і цяпер дае першую дапамогу пры няшчасных здарэньнях усім піонэрам нашай організацыі. За аптэчкай сочаць 2 абраныя сябры.

Наша зьвяно вывучае санітарыю, гігіену, запрашаючы на заняткі доктара, і дагаварваючыся з ім аб програме вывучэньня.

**М. Вярнікоўскі.**

## Над Калыскай.

Над калыскай стаіць маці,
Хлопчыка гушкае.
Як з вялікім чалавекам
З сынам размаўляе.
Эх, сыночак, эх мой родны,
Будзеш ты вялікім.
Стукаць молатам пачнеш ты
Без трывогі і ліку.
Тут вось Менск,
Там Віцебск, Полацк,
Усё тут край твой родны;
Тут жывеш, расьцеш, Лявончык,
Чысты й не галодны.
Ведай, сын, што ужо сонца
Ў тваім краі сьвеціць,
Але шмат людзей бяздольных
Яшчэ ёсьць на сьвеце.

**А. Розна.**

## З жыцьця лягераў.

(*Інтэрнацыянальная база пры дзіцячым гарадку імя Чарвякова*).

Прыехаўшы 12 чэрвеня ў лягеры „Восава“ і разьмеркаваўшы месцы пад клюб, спальню, сталоўку, пачалі рыхтаваць п'есу для адчыненьня лягераў. 3-га ліпня адбыўся вечар, на якім прысутнічалі амаль што ўсе сяляне як старэйшыя, так і моладзь.

Добра тое, што загадчык гарадку т. Герман падшукаў нам кіраўніка па фізкультуры, купіў футбольны мяч і др. рэчы, якія патрэбны для заняткаў. Ахвотна ўстаюць піонэры а 7-ай гадзіне раніцы, бягуць на рэчку, абмываюцца і ідуць на заняткі. Пасьля ў сталоўку. Па скончэньні сьнеданьня робіцца збор базы, дзе т. Герман чытае распарадак дню. Вясковыя хлапцы і дзяўчата ходзяць да нас на піонэрскія заняткі. Некаторыя хочуць паступіць у піонэры. Добра жывуць піонэры з вясковымі дзецьмі. Спадзяёмся, што далей будзе яшчэ лепей.

**М. Горан.**

## Памяці тав. Дзяржынскага.

(*Старасельскі атрад № 2 імя Зіноўева*).

24-га ліпня мы дачуліся аб тым, што памёр т. Дзяржынскі. Наш павадыр т. Рогаў хутка склікаў збор, на якім расказаў нам, з якой хваробы памёр дзядзка Дзяржынскі, а таксама расказаў пра яго жыцьцё і дзейнасьць. Нам вельмі шкода, што ня стала яшчэ аднаго з лепшых правадыроў нашага Саюзу, дзядзкі Дзяржынскага. Але мы так сама, як і нашы правадыры, будзем змагацца з нашымі ворагамі і будаваць новае добрае жыцьцё. Мы ніколі не забудзем нашых памёршых правадыроў рэволюцыі.

**Г. Раткевіч.**

## Наш шэф.

(*Мястэчка Старобін, Слуцкае акругі*).

Яшчэ ў кастрычніку месяцы 1925 году над нашым атрадам юных піонэраў імя Варашылава ўзяла шэфства Старобінская коопэрацыя ЕПО. За гэты час коопэрацыя—наш шэф—дапамагла нам вельмі многа. Дзякуючы шэфу мы атрымалі клюб, барабан, сьцяг і за яго грошы мы выпісалі маленькую бібліотэчку на 20 руб. Але калі мы паглядзім з боку асьветнага, дык тут наш шэф падкачаў. Яшчэ ні адной гутаркі аб коопэрацыі на сходах атраду не праводзілася. Трэба, каб у хуткім часе, наш шэф зьвярнуў на гэта ўвагу.

**М. Варшал.**

## Што рабіць з перarosткамі.

Калі мы праглядзелі нашы піонэр-атрады, дык пабачылі, што ва ўсіх атрадах ёсьць піонэры, якія ўжо дасяглі 15 і 16 гадоў узросту. Але разам з гэтым, яны яшчэ не падрыхтаваны для перадачы ў шэрагі КСМ. Паўстае пытаньне, што рабіць з такімі піонэрамі? Я думаю, калі пры атрадзе маюцца гэтакія піонэры, дык неабходна організаваць гурток з мэтай вывучэньня імі уставу і програмы КСМ, а так сама і гісторыі. Галоўным чынам, трэба даведацца, ці дадуць такія піонэры, што-небудь комсамолу. Пасьля чаго, тыя перarosткі піонэр-організацыі, якія могуць быць актыўнымі комсамольцамі, перадаць іх у КСМ. А тых, якія яшчэ не падыходзяць да комсамолу, мы павінны мэханічна вылучыць з сваіх шэрагаў.

**Піонэр.**

## Зьвярнулі ўвагу.

(*Мястэчка Старобін, Слуцкае акругі*).

Мы ведаем, што цяпер галоўнаю мэтаю піонэраў зьяўляецца палепшаньне здароўя. Старобінскі атрад зьвярнуў на гэта вялікую ўвагу. Усе зьвеньня, а, галоўным чынам, старэйшыя займаюцца фізкультурай. Заняткі праводзяцца на сходах зьвеньняў і адзін раз у тыдзень а 7-ай гадзіне раніцы. На занятках па фізкультуры, галоўным чынам, робіцца вольны рух. Пасьля фізкультурных заняткаў піонэры ідуць купацца.

Усё гэта разам ўзятае узмацняе здароўе піонэраў.

**Піонэр.**

## Становішча піонэрорганізацыі.

(*Менск, Горацкі раён*).

### Склад.

У раёне маецца 62 атрады, агульным лікам піонэраў каля 3.000. Большасьць апошніх—нормальнага піонэрскага ўзросту 12-14 год. Комсамольскі асяродак хутка расьце і зараз налічвае 148 чал.

### Праца.

Летні пэрыяд высоўваў перад намі задачу *аздараўленьня, выкарыстаньня лета*. Піонэры праводзілі сваю працу на вольным паветры, праводзілі экскурсіі, займаліся фізкультурай і г. д.

Ва ўсіх атрадах утвораны санітарныя звеньні, якія сочаць за гігіенай. У лягеры вышла 5 атрадаў.

*Грамадзка-карысная праца* ўлетку слаба праводзілася. Трэба адзначыць, што узмацнілася *праца па шэфству з вёскай і Чырвонай арміяй.*

*Нацмоманты.* На расійскай мове працуюць—35 атрадаў, на яўрэскай—19, на польскай—1 і на беларускай мове—7. Многія атрады працуюць на расійскай мове, ня гледзячы на тое, што ў іх маецца значны процант беларусоў. Тэмп беларусізацыі трэба будзе ўзмацніць.

*Друк.* Насьценныя газэты выдаюцца больш-менш рэгулярна. Выпісваюцца газэты і часопісі, як індывідуальна, так і колектыўна. Узяты курс на організацыю дзеткораўскіх гурткоў.

*Акцябраты.* У раёне 8 акцябрскіх групаў. Працуюць яны нядаўна. Вопыту ў працы яшчэ няма. Асобныя атрады праводзілі працу ў дакшольных установах.

*Комсамольскі асяродак.* Праца і паводзіны комсамольскага асяродку прымушаюць жадаць лепшага. За апошні час райбюро аддае шмат увагі гэтаму пытаньню, склікае нарады піонэраў, комсамольцаў і г. д.

**І. Зэльцар.**

## Як працуе наш гурток дзіцячых корэспондэнтаў.

(*м. Грозаў, атрад імя Калініна*).

Прыблізна месяц таму назад у нашым атрадзе пры рэдколегіі насьценнай газэты організаваўся гурток дзіцячых корэспондэнтаў. Заняткамі нашага гуртка цікавяцца амаль што ўсе піонэры атраду, а таксама шмат неорганізаваных дзяцей.

Заняткі нашага гуртка зусім не падобны да заняткаў комсамольскіх і іншых гурткоў дарослых. На занятках мы не ставім якіх-небудзь дакладаў, а найбольшай часткай працуем пры насьценнай газэце. Так, на адных занятках гуртка, колектыўна пазнаёміліся з тым, якой павінна быць газэта атраду. Гэта правялося у форме лёгкай гутаркі, да якой усе мы падрыхтаваліся і, бяручы за аснову нашую насьценную газэту, разабраліся ў тым, што добрае і што нядобрае у нашай газэце, і якую у далейшым трэба будзе выдаваць газэту. На тых самых занятках нашага гуртка мы абмяркавалі плян наступнага нумару насьценнай газэты. Апрача гэтага, мы вырашылі, што на наступных занятках трэба зрабіць палітсуд над апошнім нумарам насьценнай газэты атраду. Да ўдзеду ў палітсудзе мы прыцягнулі ўсіх сяброў нашага гуртка. Аднаму далі ролю старшыні суда, другому—абвінаваўцы сьцен-газэты, пятаму—праваабаронцы разьдзелу „Нашае жыцьцё“ і так усім сябром гуртка. Сябры нашага гуртка не драмалі, а рыхтаваліся кожны да сваёй ролі: чыталі кніжкі аб насьценных газэтах і крытыкавалі апошні нумар насьценнай газэты. На чарговых занятках гуртка мы правялі намечаны паліт-суд. Праца нашага гуртка зусім не перагружае піонэраў, аб чым гаворыць тое, што многія піонэры хочуць, каб заняткі гуртка праводзіліся часьцей.

Вось як працуе наш гурток. Мы прапануем усім атрадам організаваць гурткі дзеткораў, бо гэтая праца вельмі цікавая, яна ўцягвае ў актыўную працу ўсіх піонэраў і знаёміць з тым, як працаваць у насьценнай газэце, як пісаць корэспондэнцыі.

**Уладзік Сакалоўскі.**

## Жыцьцё дзяцей Англіі.

(*Дзіцячая трыбуна ў скверы 1-га Мая*).

Дзень 1-га мая 1926 году назаўсёды застанецца ў памяці рабочых, бо гэта—гістарычны дзень для рабочай грамады. Ён быў першым днём усеагульнай забастоўкі рабочых. Па ўсіх мясцох дэмонстрацыі рабочых адбываліся больш удала, чым калі гэта было раней. А „Саюз Юных таварышоў“ па ўсіх мясцох, дзе ў яго былі аддзяленьні, зрабіў усё магчымае для таго, каб організаваць пролетарскіх дзяцей.

У Лёндане дэмонстрацыя расьцянулася больш чым на 2 мілі ў даўжыню. „Саюз юных таварышоў“ падрыхтаваў тры плякаты, якія зрабілі вялікае ўражаньне. Адзін быў супроць цялесных катаваньняў і за дармовае выхаваньне дзяцей ў школах, на другім была намалёвана расьліна, кожны лісток якой выяўляў сябою адзін з кепскіх бакоў капіталістычнага ўраду: голад безпрацоўе і г. д. Гэты плякат сустракалі гучнымі аплёдысмэнтамі. На 3-м плякаце быў зроблены малюнак, які адбіваў сабой буржуазную лекцыю ў школе. Настаўнік стаіць з палкаю, лёзунгамі на гэтым плякаце былі: „Далоў капіталістычныя мэтады навучаньня ў школах“, „Мы жадаем вывучыць гісторыю рабочых“.

У „Гайд Парку“ „Саюз Юных Таварышоў“ прылучыўся да соцыялістычнай „Воскреснай Школы“, ад якой выступіла два прамоўцы. Ад нас выступіла 6 прамоўцаў. Расказ аб нашай кампаніі па набіраньню новых сяброў і наша набіраньне новых сяброў, дзеці спадкалі з вялікай прыхільнасьцю.

**Да ўсіх дзяцей горнарабочых.**

(*Глазко*)

Буржуазея хоча заставіць вашых бацькоў і старэйшых братоў працаваць большы лік гадзін за меншую плату. Ці ведаеце вы, што гэта азначае? Гэта значыць, што вы будзеце галодныя і будзеце хадзіць у школу ў падраных чаравіках і кепскай адзежы. Вашы бацькі і старэйшыя браты змагаюцца супроць гэтага. Яны ня хочуць атрымоўваць меншага заробку і не хочуць застаўляць вас хадзіць у школу ў падраных ботах. Вы павінны дапамагчы ім у барацьбе з прагнымі гаспадарамі. Саветы прыходаў павінны выплачваць вашым маткам па 4 шылінгі штотыднёва, для таго, каб яны маглі пракарміць нас. Саветы, замест 4-х шылінгаў даюць 2 або 3. Гэта вельмі мала, 4 шылінгі ледзь хапіла-бы вам. Вашы бацькі злуюць на Саветы прыходаў за тое, што яны не плацяць ім па 4 шылінга і яны стараюцца заставіць іх плаціць.

Вы можаце дапамагчы ім у гэтай справе. Комуністычны Саюз Моладзі вядзе вас на гэты шлях. Калі Саветы прыходаў ня будуць выдаваць вам па 4 шылінгі і ў школе ня будуць даваць есьці 3 разы ў дзень, дык вы павінны зрабіць забастоўку і не хадзіць у школу, пакуль вашы запатрабаваньні ня будуць споўнены. Вазьмеце гэты лісток і дайце прачытаць вашым бацьком, папрасеце заявіць аб вашых бунтах Забастовачнаму Камітэту. Рыхтуйцеся да таго, каб зрабіць школьную забастоўку. Запатрабаваньне: або 4 шылінгі штотыднёва з прыхода, або хай кормяць у школе 3 разы ў дзень.

**Прычыны усеагульнай забастоўкі.**

(*З лістоўкі ад 4-га мая 1926 г. Лёндан*).

З гутаркі вашых бацькоў вы напэўна даведаліся аб локаўце, які гаспадары прадпрыемстваў абвясьцілі горнарабочым. Але ці ведаеце вы аб гэтым усю праўду? Горнарабочыя выпрацоўваюць па два або меней фунтаў сьцерлінгаў у месяц, а гаспадары прадпрыемстваў хочуць паменшыць ім заробак і хочуць заставіць іх працаваць больш двух гадзін. Рабочы і так працуе 7 гадзін пад зямлею.

Гэнеральны Савет Трэд-Юніонаў зрабіў пастанову падтрымліваць горнарабочых у іх барацьбе супроць зьмяньшэньня заробку. Калі горнарабочыя ўступяць — гэта азначае, што заробак іх будзе зьменьшаны, а лік гадзін будзе павялічаны.

Ці будзеце вы патрымліваць вашага бацьку і яго таварышоў у гэтай барацьбе з гаспадарамі прадпрыемстваў?

Мы дзеці павінны дапамагчы нашым бацьком у іхняй барацьбе з эксплёатацыяй і нашай беднасьцю.

# Юныя комунары.

*(З жыцьця і працы лягеру першай Інтэрнацыянальнай базы пры дзіцячым гарадку імя Чарвякова.)*

За дванаццаць вёрст ад гораду шырока раскінулася сваймі будынкамі колёнія *Восава*. А сярод іх—бы той начальнік узьняўшы бадзёра галаву з новай шапкай, знаходзіцца будынак, прыстасаваны пад піонэр-лягэр. І ўсё гэта пераплецена бы кветкамі, вянок—здольнай рукою: агародам, сенакосам садам, лесам і ўсё гэта разам перавіта рэчкай.

Раней у гэтай колёніі жыў багаты пан, меў шмат слуг і эксплёатаваў сялян. З надыходам рэволюцыйнага часу, зямлю аддалі парабком і бяднейшым сялянам, заставіўшы для калёніі толькі 4¹/₄ дзесяціны поля і 5 дзесяцін сенакосу.

Уся зямля, якая засталася для колёніі, аддадзена пад паказальны для дзяцей і сялянства агарод. Гэты агарод апрацоўваецца уласнымі рукамі саміх дзяцей пад кіраўніцтвам садоўніка.

Усе дзеці гарадку, выехаўшы зараз у лягэры, разьбіты па атрадах, дзе яны ня толькі праводзяць працу фізычную, але выхоўваюць сябе ў палітычным напрамку.

### Пачынаецца дзень.

Калі гадзіньнік паказвае сем, а гэта той час, калі пара будзіць дзяцей, раптам мёртвую ціш лягэру прарэзвае гучны голас сыгналіста.



—Тру-ту-ту,—праняслося па ўсім будынку і дзесьці далёка адгукнулася ў лесе. Сотні галоў выглянулі з пад коўдраў. А праз пяць хвілін увесь будынак загаманіў, зарагатаў здаровым дзіцячым сьмехам.

Дзеці ідуць купацца.

У сем гадзін і 30 хвілін сігнал зноў гучным рэхам пранёсься па рэчцы і дзесьці далёка зьгінуў. З ўсіх бакоў рэчкі, спальні бягуць дзеці на фізычныя заняткі.



Раз аецца гучны голас каманды—направа, раўняйся, раз, два, тры і сотні рук выцягваюцца быццам адна ўправа, улева і ўгару. Закаляюць свой малады організм і поўнымі грудзьмі ўдыхаюць ранняе сьвежае паветра.

А 8-ай гадзіне ў сталоўцы пачынаецца сьнеданьне. На стале растаўлена пасуда, тут-жа ляжаць пайкі белага хлеба з маслам. Праз некалькі хвілін усе сталы займаюцца дзецьмі. Пасьля раньняга купаньня і спорту зьяўляецца добры апэтыт. І кожны піонэр знае свой штодзённы парадак у сталоўцы: прышоў, пад'еу і вышаў. Ні шуму, ні крыку.

К 9-ці гадзінам сьнеданьне канчаецца і да 10-ці дзеці павінны ўбраць за сабой. Роўна а 10-ай гадзіне, па сыгналу, дзеці зьбіраюцца на праверку. Тут ім зачытваецца ліст аб тым, хто што павінен рабіць у працягу ўсяго дню.

А 12-ай гадзіне сонца стаіць над самай галавой. Жарою, бы з горна, дыша. А рэчка так і мане да сябе. Хочацца кінуць кнігу і газэту і хутчэй пабегчы на рэчку, а там падставіць сьпіну сонцу.

А 1-ай гадзіне дню, напёкшы добра сьпіну і добра выкупаўшыся, хто з кнігамі, хто з песьнямі а хто проста ў задуменьні аб сваім далейшым жыцьці, разыходзяцца па лесе і полю. Гэта вольны час. Час ідзе бязупынна. Гадзіньнік паказвае 2-гадз. На двары ні воднай душы: усе разышліся, хто куды А на сталох, у два роўных рады, стаяць з цёплай вадой міскі.

Тру-ту-ту,—праразала паветра і разьнеслося па полю, перакінулася ў лес і ўсіх абвясьціла аб пачатку абеда. З усіх бакоў бягуць з сьмехам і вясёлаў гутаркай дзеці і толькі змаўкаюць тады, калі сядаюць за сталы.

Да 3-ай гадзіны працадура з абедам канчаецца. Усе піонэры і не піонэры кладуцца ў ложкі. Гэта час адпачынку.

А 4-ай гадзіне дзеці ўстаюць, засьцілаюць ложкі, выметаюць будынак і ў 5-ць гадзін кожны приступае да працы, якая была вызначана яму раней.



З вялікаю ахвотаю праводзяць дзеці гадзіны фізычнай працы. Бо і сапраўды цікава. Тут яны ня толькі працуюць, але атрымоўваюць веды па гаспадарцы і агрономіі.

Пасьля фізычнай працы сыгнал абвяшчае вячэру. Усе складаюць інструманты і бягуць да свае добра знаёмай сталоўкі, якая праз хвіліну йзноў жыве сваім штодзённым жыцьцём.

Калі сонца пачынае заходзіць, у лягэры прыходзяць вясковыя дзеці і разам пачынаюць праводзіць час: адны гуляюць у лапту, другія ў рыбака і рыбку. Кожны стараецца праявіць сваю здольнасьць. Недзе далёка резьліваецца песьня:

А ў бары бары—тры дарожанькі.

Гэй, гэй, тры дарожанькі.

І далёка, далёка адгукаецца гэта песьня над прасторам палёў і лугоў. На дваре пачынае цямнець. Дзеці йдуць на адпачынак. Пасьля чаго ў 10 гадзін мёртвы сон. Толькі вартоўнік ходзіць і пільнуе, каб што-небудзь не парушала дзіцячага сну.

**Актыў гарадку.**

Гаворачы аб лягерах, нельга абыйсьці маўчаньнем актыў гарадку, які галоўным чынам складаецца з комсамольцаў. Ён здабыў сябе аўторытэт сярод ячэйкі і таксама сярод беспартыйнай масы. Апрача ўсяго гэтага, ў дзіцячым гарадку ёсьць літаратурная група, дзе дзеці, ня толькі вучацца працаваць, але таксама разьбіраюць творы нашых поэтаў. Таксама пробуюць і свае сілы.

Так жывуць і выхоўваюцца дзеці ў дзіцячым гарадку імя Чарвякова.

П. Праўдзін.

# ГУЛЬНІ

**Вартаўнік рэволюцыі.**

Прымае ўдзел увесь атрад.

Адзін піонэр ідзе наперад, на 500 або 800 крокаў, і прыпыняецца ў такім месцы, дзе выгляд задняга пляну робіць яго мала прыкметным для другіх піонэраў. Напрыклад: пры вопратцы колеру „хакі“ лепшай забаронай ад вока зьяўляецца пескавая мясцовасьць, або пажоўклая трава. Высланы наперад вартаўнік не павінен быць захованым больш, чым на палову. Апошнія піонэры зьвяна затрымліваюцца ў пункце, адкуль яны ня могуць бачыць пазыцыю, якую заняў вартаўнік. Па сыгналу вартаўнік робіцца нярухомым на сваёй варце, а зьвеньні йдуць наперад і стараюцца яго адшукаць. Выйграе тое зьвяно, якое першым заўважыць вартаўніка. Для гульні ўстанаўліваецца тэрмін, па сканчэньні якога гульня канчаецца.

Месца для гульні—мясцовасьць, прыстасаваная да колеру вопраткі піонэра.

*Увага*: Зьвеньням нельга пгдыходзіць да вартаўніка бліжэй, чым на 50 крокаў.

**Збор дзіцячых комуністычных груп.**

Прымае ўдзел атрад.

Асобы, якія прымаюць удзел, падзяляюцца на 2 партыі па 5-ць чалавек у кожнай. 4-ры асобы ўтвараюць кола, а пяты становіцца ў сярэдзіне іх. Пасьля выбіраюць двух хлапцоў, з якіх адзін будзе сябра дзіцячай комуністычнай групы Захаду, а другі з піонэраў—шпікам. Утвораныя іншымі таварышамі гурткі знаходзяцца на адлегласьці 8—10 крокаў адзін ад другога ў розных напрамках. Піонэр, які ўцякае ад шпіка, павінен схавацца ў адзін з гурткоў, а адтуль зараз-жа выбягае піонэр, які знаходзіцца ў сярэдзіне і ўцякаючы бяжыць ізноў у адзін з гурткоў. Калі шпік яго зловіць, ён выходзіць з гульні. Шпік мае права лавіць піонэра, калі той знаходзіцца па за колам. У коле ж затрымліваць нельга. Піонэры, якія знаходзяцца ў сярэдзіне кола, паступова замяняюцца, па ўказаньням павадыра, другімі дзяцьмі, якія ўтвараюць кола. Гульня цягнецца 15 хвілін. Калі за гэты час шпікам будзе злоўлена менш паловы ўсіх прымаючых удзел у гульні, то збор піонэраў лічыцца скончаным, калі болей паловы, дык не. Шпік заходзіць у кола ня мае права.

Перад гэтай гульнёй павінна быць праведзена гутарка аб дзіцячых комуністычных групах і аб усіх труднасьцях, якія ім прыходзіцца пераносіць пры правядзеньні сваіх сходаў.

Месца для гульні—вялікая пляцоўка.

# Страляньне з лука.

[illegible]ьне з лука ў цэль мала вядома [illegible]а між іншым яно карысна як прак[illegible]ньне і цікава як гульня.

**Як зрабіць самому лук.**

Узяць палку з вярбы, ліпы, або якога небудзь другога пруткага дрэва на палец таўшчыні і $1^1/_4 - 1^1/_3$ мэтра даўжыні. Палку неабходна абчысьціць ад усяго непатрэбнага і зрабіць на яе канцох зарубкі. Пасьля гэтага ўзяць шнурок і, сагнуўшы палку дугой, завязваюць яго на ободвых бакох палкі, на яе зарубках. Замест шнурка добра мець струну, а ў крайнім выпадку, шнурок трэба нацерці воскам.

Для таго, каб лук быў мацнейшы, трэба сярэдзіну лука (тое месца яго, якое больш усяго гнецца) акуратна абматаць вяроўкай.

Вось лук і гатоў! Цепер застаецца сказаць.

**Як зрабіць стрэлы.**

Стрэлы можна рабіць рознай формы, але лепей усяго іх рабіць з круглай палачкі, якая на заднім канцы паступова робіцца больш тоўстай, чым на пярэднім. На заднім канцы стралы робіцца выразка, куды ўваходзіць пры страляньні шнурок. На пярэднім канцы прымацоўваецца дрот, каб страла добра пападала ў цэль. Замест дроту часамі аблепваюць канец смалой, ад гэтага страла лепш і раўней ляціць.

Даўжыня стралы павінна быць такая, каб пры нацягнутым луку канец яе (пярэдні) высоўваўся на 15-20 сант.

Каб наш лук добра біў, шнурок павінен яго добра згібаць.

**Як страляць.**

Для страляньня з лука непатрэбна рабіць папярэдніх практыкаваньняў. Страляньне— рэч вельмі простая. Трэба ўзяць лук за сярэдзіну, левай рукой палажыць на яго стралу, ніжні яе канец выразкай упіраюць у шнурок і, захваціўшы стралу разам з шнурком вялікім і ўказацельным пальцамі правай рукі, адцягваюць шнурок з стралой назад, да сябе. Левая рука падымае лук уверх так, каб страла заняла мейсца чуць вышэй простай лініі паміж правым вокам і тым пунктам, куды мы будзем страляць.

Навёўшы гэткім чынам лук, адпускаем шнурок, які нясе стралу ў кірунку нашага прадмета.

Першыя спробы папасьці ў цэль наўрад ці будуць удачныя, але, паступова, знаходзячы свае памылкі і практыкуючыся, мы лёгка зможам дасягнуць посьпеху.

Калі, напрыклад, страла ўвесь час садзіцца ніжэй цэлі, значыць трэба цэліцца вышэй і, наадварот: калі праходзіць вышэй цэлі, значыць, прыцэл узяты залішне высока.

**Пры страляньні трэба быць асьцярожным.**

Пры страляньні трэба выбраць або вялікі двор, дзе можна было-б не баяцца каго небудзь „падбіць“, або лепш усяго выйсьці ў сад, на пляцоўку, у поле.

Заўсёды трэба наглядаць за тым, каб у той час, калі адзін страляе, усе іншыя стаялі ззаду ад яго.

**Выпярэдніцтва ў страляньні.**

Як зрабіць, каб страляньне было цікавым? А вось як: трэба надаць гэтаму страляньню характар выпярэдніцтва—гульні.

Можна, напрыклад, прыдумаць такую гульню: усіх хто прымае ўдзел, падзяліць на 2, 3 і 4 каманды так, каб у кожнай з іх было па аднолькаваму ліку ўдзельнікаў.

На сьцяне, плоце, або на дрэве прымацоўваецца цель—вялікі ліст паперы з намалёванымі на ім 2-3 кругамі якія павінны знаходзіцца адзін у сярэдзіне другога. На прасторы 10-20 шагоў ад цэлі праводзіцца рыска—месца, адкуль пачынаецца страляньне.

Каманда, якой прыходзіцца пачынаць першай, становіцца на рысцы. С пачатку робіць выстрал каманда № 1. Вынікі пападаньня адзначаюцца адпаведным лікам вочкаў. Пасьля страляюць 2-я, 3-я і г. д. да апошняй.

Вочкі кожнай каманды падлічваюцца так: пападаньне ў самы маленькі круг ацэньваецца за 5 вочак, пападаньне ў другі круг - 3 вочкі, у 3-ці, самы большы, 1 вочка. Калі не пацэліш, ня маеш ніводнага вочка.

Выйграе каманда, якая набірае найбольшы лік вочак пры найлепшым пападаньні. Пераняніць гульню можна так: кожны стралок страляе па 2-3 разы зараз, або з правай і з левай рукі, гэта можна рабіць стоячы, лежачы, седзячы і г. д.

**С. Паўлаў.**

„Октябрьские Всходы“.

Выданьне НКА БССР. Рэдактар—**Рэдкалегія.**




Пад рэд. Германа.

## Задачка (у форме зоркі) № 2.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| С | | | Т | | | Ы |
| | А | | Р | | Н | |
| | | Р | Р | Р | | |
| В | Е | Е | А | І | Н | А |
| | | У | Б | К | | |
| | Х | | Й | | А | |
| Б | | | У | | | У |

Дадзеныя літары ў клетках зоркі трэба раставіць так, каб прачытаць 4 словы:

1. Назву птушкі.
2. Самастойную рэспубліку СССР.
3. Назву рэволюцыянэра.
4. Горад СССР.

## Задачка літараў № 1.

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| | А | | А | |
| А | А | Е | К | С |
| | С | | Т | |
| Т | С | П | Р | К |
| | Ш | | Ц | |

Перастаўце літары ў клетках фігуры так, каб можна было прачытаць (зьлева направа і зьверху ўніз) 4 словы.

1. Назву працаўніка вёскі.
2. Адзеньне мужчыны.
3. Назву чалавека.
4. Прылада рыбака.

## Задачка ліку № 1.





Вазьмі няпарныя лікі (лішкі) ад 1-га да 17-ці і спробуй разьмяркаваць у клетках квадрату так, каб можна было атрымаць (зьлева направа, зьверху ўніз і па діаганалях) 8-м адказаў.

Кожны з іх па 27 (адзін і той-жа лік у 2 клетках ставіць ня можна).



# ГУЛЬНЯ

### Суд над рэволюцыянэрам.

Прымаюць удзел ад аднаго атраду да двух.

Лепей за ўсё правесьці гэту гульню разам з клюбным вечарам. Перад гульнёй павінна быць зроблена патрэбная гутарка на тэму аб тым, як буржуазея распраўляецца з рабочымі. Гульня патрабуе належнай падрыхтоўкі, якая апрача гутаркі павінна заключацца ў скаданьні абвінавальнага акта, прамовы пракурораў, праваабароны і г. д.

У клюбе зьбіраюцца піонэры. Суд адчыняецца па ўсіх правілах. Старшыня суда чытае абвінавальны акт, напрыклад: над рэволюцыянэрам Эстоніі або Польшчы. Пачынаецца буржуазны суд, у якім актыўна ўдзел прымаюць усе прысутныя. У гэтай гульні павінна быць адзначана клясавая барацьба ў буржуазных дзяржавах. Чым лепей падрыхтуюцца да суда яго сябры, тым лепшыя будуць прамовы пракурора—прадстаўніка буржуазіі і праваабароны—прадстаўніка, напрыклад, рабочых Савецкіх краін, тым гульня будзе цікавейшай.

Месца для гульні—вялікі пакой.

Прылады для гульні—стол, чырвонае сукно, званок, добра калі можна дастаць касьцюмы для ўдзельнікаў.

Элемэнты гульні—увага і грамадзкасьць.



Менск, 1-я дзяржаўная друкарня. Заказ № 3660. У ліку 1500 экз. Галоўлітбел № 20715.